

Віялета Нікіцюк-Пяркоўская➔3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



Вершы Любы➔9

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 08 (3328) Год LXV · Беласток, 23 лютага 2020 г. · Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Запісацца беларусамі

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

**— Я напішу ў час перапісу, што я — беларус. Важныя мне таксама наша мова і традыцыі. Няма чаго баяцца, каб назваць сваю нацыянальнасць, паколькі ахоўваецца таямніца наконт усіх даных, якія нашы жыхары напішуць у інтэрнэтных бланках у час перапісу насельніцтва, — заяўляе войт гміны Дубічы-Царкоўныя Лявон Малашэўскі.**

**Настаяцель Прыхода Пакровы Божай Маці ў Дубічах-Царкоўных мітрафорны протаіерэй Андрэй Якімюк заклікае трымацца сваёй веры праваслаўнай, не забываць пра беларускую нацыянальнасць, родную мову, традыцыі і не баяцца запісвацца ў час перапісу беларусамі. Мае суразмоўцы ў Дубічах-Царкоўных кажуць, што ў час перапісу запішуцца беларусамі і іншых заклікаюць так зрабіць.**



Войт Дубіцкай гміны Лявон Малашэўскі

Праведзеныя мною размовы тычацца пробнага Нацыянальнага ўсеагульнага перапісу насельніцтва і кватэр, які ў красавіку гэтага года мае быць праведзены ў Дубіцкай гміне — адзінай гміне Падляшскага ваяводства. На падставе пробнага перапісу ў вылучаных гмінах ва ўсіх ваяводствах маюць быць намечаны і карэктаваны недахопы па арганізацыйных пытаннях і метадах навуковых даследаванняў даных перапісу. Усё гэта робіцца з мэтай пасляховай падрыхтоўкі да Нацыянальнага ўсеагульнага перапісу насельніцтва і кватэр у 2021 годзе. У час перапісу беларусы па ўсёй Польшчы будуць маглі напісаць на сайце Галоўнага статыстычнага ведамства ў адпаведным бланку пра прыналежнасць да беларускай нацыянальнасці.

— Так папраўдзе я не ведаю, чаму менавіта Дубіцкая гміна была вылучана, як адзіная гміна ў нашым ваяводстве, для пробнага перапісу насельніцтва. Можа таму, што ў нас горшыя паказчыкі па дэмаграфіі і бюджэце на фоне суседніх і многіх іншых гмін. Калі параўнаць лік жыхароў гміны ў першай палове васьмідзясятых гадоў і цяпер, то ён паменшаў больш чым удвая. Большасць жыхароў гміны складаюць пенсіянеры, многа дамоў пустуе. Больш за палову тэрыторыі гміны займаюць лясы. Цяпер жыве ў нас прыблізна 1500 асоб. Кожны год паміраe каля 50 чалавек. Пры гэтым у мінулых гадах нараджалася каля пяці дзетак у год і толькі ў 2019 годзе нарадзілася дзесяць дзетак. Гэты апошні паказчык можа быць рэзультатам праграмы 500+. Аднак можа аказацца, што гэта часовая з'ява і толькі ў мінулым годзе крыху больш дзетак нарадзілася, — кажа войт Дубіцкай гміны Лявон Малашэўскі.

У Пачатковай школе ў Дубічах-Царкоўных вучыцца крыху больш за 50 асоб, а ў дашкольных аддзяленнях займаецца каля 20 дзетак. Яшчэ ў 1983 годзе ў Дубіцкай гміне жыло каля 3700 чалавек, а цяпер колькасць жыхароў ледзь перавышае 1500 асоб. У сярэднім на адным квадратным кіламетры ў Дубіцкай гміне пражывае 10 асоб і гэта самы нізкі паказчык шчыльнасці насельніцтва ў гмінах Гайнаўскага павета.

— Можа ў Статыстычным ведамстве ў Беластоку думалі таксама, што ў нашай памежнай гміне жыве многа імігрантаў з-за ўсходняй мяжы. Аднак такога няма. Некалькі асоб з Беларусі жыве ў сужонствах з нашымі жыхарамі і адна шматдзетная сям'я з Украіны пасялілася ў нас. Затое эміграцыя маладых людзей у гарады працягваецца. У нашых вёсках у асноўным жывуць старэйшыя людзі, шмат дамоў пустуе. Крыху сталі купляць у нас дамы і пасяляцца асобы і сем'і звонку, якія рамантуюць хаты перад пасяленнем у іх, — гаворыць войт Лявон Малашэўскі.

Можа пералічаныя з'явы спрычыніліся да правядзення менавіта ў Дубіцкай гміне пробнага перапісу насельніцтва.

— Ёсць у нас добрыя ўмовы для развіцця турызму, але не знайшоўся інвестар, каб арганізаваць вялікі турыстычны асяродак. Няма ў нас таксама вялікіх вытворчых прадпрыемстваў, якія давалі б больш даход у гмінны бюджэт і дазвалялі б выдаткоўваць больш уласных сродкаў на інвестыцыі. Аднак мы стараемся прыцягнуць вонкавыя сродкі і інвестуем. Мадэрнізуем дарогі, рамантуем святліцы, будуем водаправоды, каналізацыйную сетку і рэалізуем іншыя інвестыцыі, — кажа войт Лявон Малашэўскі і ў размове вяртаемся да перапісу насельніцтва і козыраў ад таго, што ў Дубіцкай гміне выдатную большасць жыхароў складаюць беларусы.




— Паколькі ў нашай Пачатковай школе ў Дубічах-Царкоўных дзеткі вучацца беларускай мове, дадатковыя субвенцыі з дзяржаўнага бюджэту, якія можна атрымаць пры ўмове навучання мове нацыянальных меншасцей, дазваляюць дзейнічаць нашай невялікай школе надалей. Аднак у апошнім годзе з гміннага бюджэту мы дафінансавалі дзейнасць нашай школы ў памеры 500 тысяч злотых і гэта абмежавала сродкі на інвестыцыі. Арганізуюцца ў нашай гміне таксама беларускія мерапрыемствы з падтрымкай дзяржаўнага бюджэту, — кажа войт Малашэўскі і дабаўляе, што жыхары Дубіч і іншых вёсак у гміннай управе могуць афармляць свае справы, размаўляючы на мясцовай гаворцы і так робяць. Пра яе, магчыма, таксама будуць маглі напісаць у час пробнага перапісу насельніцтва.

— Мы ў Дубіцкай гміне размаўляем на сваёй дыялектнай мове, а ў нашай Пачатковай школе дзеткі вучацца беларускай літаратурнай мове. Ладзяцца ў нашай гміне беларускія імпрэзы і мы адчуваем сябе беларусамі, — гаворыць жанчына з Дубіч-Царкоўных.

Калі ад мяне даведаецца пра перапіс насельніцтва, кажа, што запішацца беларускай.

— Я не чуў пра новы перапіс насельніцтва. Аднак гэта наш абавязак запісацца беларусамі і я ў час перапісу напішу, што я — беларус. Думаю, што нашы жыхары запішуцца беларусамі. Калі я працаваў пісьманосцам, у вёсках нашай

чытайце ☞10



# Новы віток рэпрэсій



Мелі рацыю тыя, хто яшчэ на пачатку года прагназаваў на бягучы каляндарны адрэзак жыцця ўзмацненне палітычных рэпрэсій у Беларусі. Канешне, прадказваць новыя рэпрэсіўныя справы ў дачыненні да грамадскіх актывістаў не так складана, даўно вядома, што з ваўкоў вегетарыянцаў не зробіш, а крывое само па сабе не выпрастаецца.

Аўтарытарнай уладзе няма ніякіх праблем у змаганні з так званай сістэмнай апазіцыяй, паколькі яе хады прадказальныя наперад. Ды і спосабаў сачэння і кантролю куды больш — праслухоўванне, засыланне і ўкараненне „стукачоў", свядома дэструктыўных элементаў, урэшце татальны прэсінг па ўсіх лініях. З анархістамі куды цяжэй — гэтыя моладзевыя групоўкі і яе асобныя прадстаўнікі несістэмныя, хаатычныя і нават схільныя да радыкальных дзеянняў. А радыкальнасці сістэма падаўлення баіцца больш усяго.

Беларускіх маладзёнаў-анархістаў Мікіту Емяльянава і Івана Комара засудзілі ў Мінску ажно на 7 гадоў (!) пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Для тых, хто яшчэ не ў курсе гэтай крымінальнай справы, спяшаюся паведаміць, што маладыя хлопцы нікога не забілі, не згвалцілі і не збіраліся страшных злачынстваў здзяйсняць. Засуджаны хлопцы „за псаванне маёмасці ў грамадскіх месцах, замах на наўмыснае пашкоджанне маёмасці і пашкоджанне маёмасці, здзейсненае агульнанебяспечным спосабам, незаконныя дзеянні ў дачыненні да прадметаў, паражальнае дзеянне якіх заснавана на выкарыстанні гаручых рэчываў". У віну Емяльянаву і Комару ставілася закідванне лямпачкамі з фарбай фасада будынка Мінскага гарадскога суда ў верасні 2019 года і два эпізоды выкарыстання гаручай сумесі (адзін з якіх не адбыўся) для падпалу дзвярэй следчага ізалятара ў кастрычніку 2019 года ў Мінску. Пры тым матэрыяльныя страты „пацярпелага боку" былі мізэрнымі, што адлюстравана ў матэрыялах справы.

Емяльянаў не адмаўляў свайго ўдзелу ва ўсіх трох акцыях і заявіў, што мэтай яго дзеянняў было прыцягненне ўвагі да палітычных зняволеных у Беларусі, выказванне нязгоды з цяперашняй сістэмай і рэпрэсіямі за свабоду меркаванняў. Комар адмаўляў свой актыўны ўдзел у акцыях і заяўляў пра ўжыванне да яго жорсткага абыходжання і ціску сілавікоў. У дачыненні да заявы Івана Комара пра ўжыванне псіхалагічнага і фізічнага ціску належнага расследавання не зроблена. Суд не прыпыніў разгляду справы для высвятлення абставін жорсткага абыходжання па заяве Комара. А таму прысуд ёсць зусім непрапарцыйным, незаконным, несправядлівым. Рэч жа тут яшчэ ў тым, што нехта наважыўся на радыкальнае дзеянне ў дачыненні да „недатыкальных" сілавікоў. Таму ўсе беларускія праваабарончыя арганізацыі прызналі хлопцаў палітвязнямі.

Іншага моладзевага актывіста, маладафронтаўца Піліпа Шаўрова, мяркуючы па развіцці сітуацыі, таксама чакае жорсткая рэпрэсія. На гэты раз за ідэалагічную „дыверсію". Шаўроў здзейсніў перформанс пратэсту, пафарбаваўшы рукі помніка Пушкіну ў чырвоны колер. Маладзёну рэальна пагражае да трох гадоў турмы, хоць ягоны ўчынак цягне не больш чым на „дробнае хуліганства". Пры тым Шаўрова падазраюць яшчэ ў псаванні помніка міліцыянтам. Словам, быў бы чалавек, а асаблівай ягоную крымінальную справу зрабіць пастараюцца.

У Расеі, якая выкарміла мінскі рэжым і чвэрць стагоддзя падтрымлівала яго, на мінулым тыдні адбылася яшчэ больш рэзанансная справа. Там прыдумалі цэлую тэрарыстычную арганізацыю. У горадзе Пенза доблесныя чэкісты выявілі групоўку маладых і крыху старэйшых людзей, якія дазволілі сабе гуляць у пейнтбол, а таксама абмяркоўваць патэнцыйную сітуацыю, калі становішча ў Маскве дасягне нечага падобнага да ўкраінскага Майдану. Следства ў выніку назвала гэтую супольнасць „Сеть", знайшло нібыта філіялы арганізацыі і ў Беларусі. Цягам працэсу, які здзекліва называецца „следствам", арыштаваных катавалі. Ну а прысуды ўразілі нават тых, хто ўжо перастаў здзіўляцца — сем чалавек па некалькіх артыкулах засуджаны да турмы ад 6 да 18 гадоў. Расейскі рэжым і яго мінскі атожылак нібы спаборнічаюць паміж сабой у жорсткасці пакаранняў. І тут не трэба ілюзій — знішчэнне свабоды і таптанне законнасці дзеля захавання неабмежаванай улады — альфа і амега, галоўная сутнасць гэтых рэжымаў.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Эх, эліты!

Недахоп інфармацыі стыгматызуе кожнага інтэлектуальным парэзам, падобна як і яе лішак. У наш час наўрад ці хто адчувае сябе адурнелым з-за гэтага. Незалежна ад таго, з якога боку на гэта глядзець. Калі даступнасць крыніц інфармацыі (праз інтэрнэт ці свабодную прэсу) неабмежаваная, карыстальнікі, перагружаны яе лішкам, робяць рэзкі выбар крыніц самі. Іх экстрапаляцыя на „дружалюбныя" і „варожыя" адбываецца незалежна ад іх намераў. Напрыклад, у Польшчы ёсць грамадзяне, якія, барані Бог! — не будуць глядзець вестак на дзяржаўным тэлебачанні, а ёсць тыя, хто чэрпае інфармацыю толькі з публічных (дзяржаўных) СМІ. Чаму? Яны самі не ведаюць. Такім чынам, развагі і аргументы большасці з нас набываюць антаганістычны характар. Калі „лішак" балансуе з „недахопам», мы ўсе сутыкаемся з праблемай інтэлектуальнага парэзу. Гэта нас стыгматызуе і адбірае ў нас волю да супраціву. Гэта аднолькава ставіцца да элітаў (любых), а таксама да агульнай масы грамадзян. Ну і добра для цяперашняй улады! У гэтым сэнсе падзел на эліты і неэліты не мае практычнага сэнсу. І гэта яе поспех, і таму, каб яго падтрымаць, дзеліць грамадства не па гарызантальным сячэнні паводле статусу адукацыі, набытых ведаў, вопыту і мудрасці, а па вертыкальным — злева ці справа. Той, хто не з намі, супраць нас... Толькі што, знішчаючы эліты, яна пазбаўляе грамадства галавы! Што, гэта ўлада мае яе замяніць?..

У Беларусі таксама адбываецца такі працэс дзялення, хаця ён, безумоўна, менш выражаны. Тамашнія эліты карыстаюцца непахіснай сацыяльнай пашанай. Верагодна, што гэтая ацэнка таксама нейкім асматычным чынам перададзена беларускаму апазіцыйнаму істэблішменту. Мне падаецца, што самым вялікім грэхам апазіцыйных сіл з'яўляецца перакананне, што вышэйзгаданая стыгматызацыя ніякім чынам не закранае іх, а закранула толькі большасць грамадства, якое правам посткамуністычнай спадчыны ўмацавала яе ў сабе, ментальна асімілявала і, нарэшце, прыняла яе. На мой погляд, гэта ілжывая здагадка. Дурасць — набытая. За выключэннем, вядома, прыродных дурняў.

Як вядома, у мінулую нядзелю скончыўся тэрмін падачы заявак на ўдзел у арганізаваных беларускай апазіцыяй правыбарах. Мэта была адна: выбраць сумеснага кандыдата для ўдзелу ў сёлетніх прэзідэнцкіх выбарах! Прыйшоў час! Нягледзячы на ідэалагічныя і палітычныя рознагалоссі, нягледзячы на прынцыповыя спрэчкі адносна формы дзяржавы і месца гэтай дзяржавы паміж Усходам і Захадам, нягледзячы на досыць аўтарытэтныя заявы, што частка яе знаходзіцца пад уплывам расійскіх агентаў, беларуская апазіцыя канчаткова аб'ядноўваецца да прэзідэнцкіх выбараў! Адзін, моцны, экспрэсіўны і шырока падтрыманы палітычны апанент Аляксандра Лукашэнкі, нават калі ён у рэшце рэшт прайграе з ім выбарчы бой, мае шанцы кансалідаваць сканфліктаваную апазіцыю і сфармуляваць агульныя прыярытэты, а значыць, зрабіць зручную для чытання дарожную карту палітычных змен, чаго вялікая частка грамадства чакае (больш-менш адкрыта, больш-менш інтуітыўна ці нават свядома). Дагэтуль апазіцыйныя сілы ў Беларусі былі падобныя да будаўнікоў Вавілонскай вежы, якія пераблыталі мовы. Кожная партыя ці групоўка выкарыстоўвалі пэўнае, каб не сказаць эзатэрычнае апавяданне, зразумелае для азнаёмленых, але неймавернае і, такім чынам, фруструючае для іншых. Як вынік — перш за ўсё: утварыўся апазіцыйны істэблішмент, замкнёны ў сабе і ў сваіх загадкавых праграмах палітычных алгарытмаў, да якіх звычайны чалавек проста не мае галавы; па-другое, адсутнасць выразнай і адкрытай камунікацыі з грамадствам адарвала апазіцыйныя сілы ад жыццёва важнай крыніцы чалавечай сімпатыі, якая звычайна забяспечвае іх адкрытай ці паўсакрэтнай падтрымкай. На жаль, не падтрымлівае! У выніку яна не можа супрацьстаяць уладзе альбо прынамсі эфектыўна стрымліваць яе аўтарытарныя тэндэнцыі. І, што балюча, маючы такі аўтарытэт у вачах грамадства, яна марнуе свой палітычны патэнцыял. Хоць у Беларусі не публікуюцца афіцыйныя апытанні, усё ж улады ўвесь час праводзяць праверку настрояў грамадскасці. Нават сам Аляксандр Лукашэнка не хавае, што яго кіраванне не карыстаецца бясспрэчнай падтрымкай грамадства. Для апазіцыі гэта моцны сігнал, што Беларусь паступова даспявае да палітычных перамен. Няхай толькі яна дасць рады аднавіць свой аслаблены аўтарытэт.

Міраслаў ГРЫКА

Сваімі вачыма

# Вірус нянавісці



У папярэднім нумары „Нівы" працягвалі мы асвятляць падзеі звязаныя з крывавымі здарэннямі на Беласточчыне, на зломе студзеня і лютага 1946 года і стаўленнем да іх польскіх палітычных сіл. Перад намі чарговае выпрабаванне з гэтай жа серыі. Менавіта ў нядзелю, 23 лютага, у Гайнаўцы ў пяты ўжо раз мае месца арганізаваны нацыяналістычнымі кругамі Гайнаўскі марш памяці выклятых жаўнераў, які штогод выклікае пратэсты не толькі слоўныя, але і фізічныя. Галоўным героем гэтага нацыяналістычнага відовішча з'яўляецца менавіта Рамуальд Райс „Буры" — чалавек адказны за крывавыя злачынствы супраць беларускага насельніцтва Гайнаўскага і Бельскага паветаў. У фейсбуку яго арганізатары выклалі адмысловую заяву, якая адкрыта дыхае міжнацыянальнай нянавісцю. Дзеля памяці і гісторыі прыводжу яе ў гэтым месцы:

**„Hajnówka (Podlaskie) — miasto położone na wschodnich obrzeżach naszego kraju. Ale czy na pewno? Administracyjnie owszem, lecz mentalnie... jest to jedyne miasto w Polsce, w którym do dzisiaj szarga się dobre imię żołnierzy podziemia niepodległościowego. To właśnie tam na naszych bohaterów mówi się bandyci i zbrodniarze. To właśnie w tym mieście ludzie skazywani są za okrzyk „precz z komuną" lub rzekomy czynny napad na funkcjonariusza policji. To właśnie tam do pewnego momentu nie wywieszano polskich flag na uroczystości państwowe. To właśnie w tejże Hajnówce odbywały się pochody 1-majowe, zamiast uroczystości związanych chociażby z narodowym dniem pamięci Żołnierzy Wyklętych. I to właśnie tam wielu mieszkańców nazywa siebie Rusinami, a tamtejsze ziemie wedle ich mniemania są okupowane. Hajnówka należy do państwa polskiego. Dlatego też naszym moralnym obowiązkiem jest to, aby w końcu na tej jakże czerwonej ziemi polska myśl zwyciężyła". „Wszystko ma swój początek i koniec. Dlatego teraz przyszedł czas na nas — Polaków. Ludzi zdeterminowanych, którzy chcą obalić ostatni bastion komuny w Polsce. Sukcesywnie, krok po kroku. Aby zburzyć ten beton potrzebny jest każdy z Was. Wasza obecność tego dnia w Hajnówce pokaże czerwonej władzy, a także jej sympatykom, że ich wizja i czas minął bezpowrotnie".**

Пасля прачытанага хочацца прасіць Усявышняга, каб для аўтараў гэтых радкоў, заражаных вірусам нянавісці, вярнуць у душы і галовы агульнагуманныя чалавечыя каштоўнасці, а для палітыкаў і дзяржаўных улад, якія гадамі давалі маральны дазвол на ўсхваленне і ўзвышэнне „Бурага", проста прыняць супрацьдзейныя меры да заклікаў, якія нясуць з сабою маральны шантаж і пагрозу, між іншым, і для нашай беларускай нацыянальнай меншасці. Пішу гэтыя словы з вялікім асабістым болем, бо ў дэмакратычнай дзяржаве такога кшталту адозвы павінны сустрэцца з аўтаматычным расследаваннем з боку такіх органаў як паліцыя, пракуратура, ваявода і ягоныя службы. Польшча як дзяржава падпісала шэраг міжнародных пагадненняў супрацьдзейнічаюць, між іншым, такім словам і высновам, накіраваным супраць нам, беларусам, грамадзянам Польшчы, якія ў сябе, на сваёй зямлі выбудоўваюць разам з усімі будучыню нашай краіны. Абвінавачванне нас у дзяржаўнай і грамадзянскай нелаяльнасці з'яўляецца менавіта такім актам агрэсіі і моўнай нянавісці. Калі не будзе рэзкай рэакцыі з боку ўлад на такія інцыдэнты, то не хачу прарочыць, але вірус нянавісці можа аб'яўляцца не толькі ў вербальным, але і непасрэдна фізічным прымяненні. Вірус, раз выпушчаны на волю, нясе з сабою пагрозу эпідэміі, якой ужо не стрымаць. Так было ў гісторыі, няйначай ёсць і ў сённяшнім часе. Калі адкінем рэфлексію і жаданне спыніць нарастаючую спіраль падобных з'яў, то на нашых вачах адбываецца эскалацыя польска-беларускага канфлікту, які выгадны варажэнькам мірнага сужыцця народаў у гэтай частцы Еўропы.

Таму шкада, што бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак апрача апраўдання сябе і сваёй палітыкі ў адрас арганізатараў маршу, традыцыйна не забараніў яго. Хай тады ізноў суд дае згоду і гэтым самым таксама бярэ адказнасць за распаўсюд віруса нянавісці. Пазбегнуць гэтага можам, калі дзяржаўныя ўстановы і палітыкі цвяроза думаюць пра будучыню Польшчы як дэмакратычнай дзяржавы, ці застрагнуць яны на дзесяцігоддзі ў заўсёды балотніста-мутных бурбалках толькі гістарычнай палітыкі. Вядома, што без гісторыі няма народаў і дзяржаў, але не можна быць яе заложнікам толькі ў аднабаковым мірнага бачанні.

Яўген ВАПА

Настаўнікі роднай мовы

# Праца з дзеткамі цяжкая, але і вельмі ўдзячная. Нішто так не натхняе да далейшай працы як усмешка і задавальненне вучняў

**— Чаму Вы сталі настаўнікам беларускай мовы?**

— Памятаю, што я ўжо ў дзіцячыя гады любіла гуляць у школу. Я заўсёды была настаўніцай, а мая малодшая сястра вучаніцай. Потым я паступіла ў ліцэй і там упершыню сустрэлася з беларускай мовай. Але я тады яшчэ не думала, што ў будучыні стану настаўніцай беларускай мовы. Пазней, зусім выпадкова я паступіла на беларускую філалогію і тут захапілася беларускай мовай і культурай. Гэта быў самы шчаслівы выпадак у маім жыцці. Пасля я закончыла педагагічныя курсы і так стала настаўніцай.

**— Хто для Вас ідэал настаўніка роднай мовы?**

— Я вельмі цаню сваіх старэйшых сяброў настаўнікаў, але ў мяне няма ідэаланастаўніка.

**— Ці супрацоўнічаеце з настаўнікамі беларускай мовы ў іншых школах? Калі так, назавіце сваіх сяброў.**

— Калі ёсць такая патрэба, я супрацоўнічаю і заўсёды магу разлічваць на дапамогу хіба ўсіх настаўнікаў беларускай мовы.

**— Якія арганізацыі і ўстановы, паводле Вас, найбольш дапамагаюць?**

— Хіба Цэнтр беларускай культуры ў Варшаве.

**— Ці ведзяце ў школе беларускія праекты для сваіх вучняў? Калі так, назавіце іх.**

— Пакуль, што не.

**— Ваш любімы беларускі конкурс?**

— Я вельмі люблю ўсе дэкламатарскія конкурсы. Тут і самае вялікае зацікаўленне сярод вучняў.

**— Ці можаце разлічваць на дапамогу бацькоў, асяроддзя?**

— Заўсёды!

**— Ці навучанне на прынцыпе добраахвотнасці для Вас складанасць ці, можа, козыр?**

— Складанасць. Вельмі цяжка зацікавіць вучняў заняткамі. Але гэта рэальнае. Вось зараз мае вучні, ліцэісты, самі вырашылі, што хочуць вучыцца роднай мове. У нас беларуская мова як дадатковыя заняткі, сустракаемся мы пасля ўсіх заняткаў у школе, але яны хочуць вучыцца, яны самі зацікаўлены беларускасцю і дзякуючы таму мне як настаўніцы намнога лягчэй працаваць.

**— Ці можаце зрабіць усё за тры гадзіны ў тыдзень, што раней запланавалі?**

— Тры гадзіны гэта вельмі мала. Вядома, бываюць розныя тэмы, але хочацца, каб заняткаў было больш

**— Ёсць у Вас лаўрэаты прадметнага конкурсу? Калі так, назавіце іх лік.**

— Былі ў час, калі я працавала ў Школе святых Кірылы і Мяфодзія. Ліку аднак не памятаю.

**— Ці паводле Вас падручнікі па беларускай мове дапасаваныя да сучаснасці?**

— Усё змяняецца. Думаю, што і падручнікі павінны стаць больш актуальнымі і цікавейшымі, нават у той, здаецца, менш важнай сферы — графіцы. Мне вельмі падабаюцца падручнікі для вучняў класаў 1-3 пачатковай школы.

**— Ваш любімы падручнік па беларускай мове?**

— Няма.

**— Хто Ваш любімы беларускі аўтар?**

— Многа такіх. Назваць усіх вельмі цяжка. Але самая блізкая майму сэрцу заўсёды была жаночая паэзія, у прыватнасці цаню паэзію паэтэс літаратурнага аб'яднання „Белавежа".

**— Якую беларускую кніжку Вы актуальна чытаеце?**

— На жаль, цяпер у мяне, не хапае часу, каб узяць нейкую кніжку нават у рукі і прачытаць штосьці звычайна для сябе. Уласнае дзіцё, праца ў ліцэі ды дзіцячым садку... А хочацца прачытаць шмат. Пакуль усё чакае.

**— Ці прывіваеце цікавасць да беларускай прэсы?**

— Так.

**— Якая, паводле Вас, самае цікавае беларускае мерапрыемства?**

— Шмат такіх і ўсе яны вельмі нам патрэбныя, бо дапамагаюць маладым пакаленням ведаць беларускую мову, звычаі ды традыцыі. Многа з іх арганізуе БГКТ.

**— Ці размаўляеце са сваімі вучнямі пабеларуску па-за ўрокамі, школай?**

— Размаўляю і па-беларуску, і па-польску. Аднак заўсёды вельмі прыемна мне асабліва на беларускай мове размаўляць з маімі выпускнікамі.

**— Ці маеце прыкрыя ўспаміны ў сувязі са сваёй прафесіяй?**

— Не і хочацца, каб так было заўсёды.

**— Што Вас палохае, наклікае стому?**

— Пакуль што, хіба нішто.

**— Ці сярод Вашых вучняў ёсць вядомыя выпускнікі?**

— Мае выпускнікі пакуль што маладыя людзі, але напэўна ёсць сярод іх кандыдаты да таго, каб стаць у будучыні вядомымі. Многія займаюцца музыкай, у іншых літаратурныя таленты. Мне здаецца, што неўзабаве свет пра іх пачуе.

**— Ці атрымалі Вы ўзнагароды за сваю працу (грашовыя, ганаровыя)?**

— Былі нейкія грашовыя ўзнагароды. Але для мяне самыя значныя ўзнагароды гэта малюнкі-падзякі ад дзяцей. А такіх у мяне шмат і я заўсёды з сентыментам да іх вяртаюся.

**— Што Вам дае сілу, натхненне?**

— Вучні. Праца з дзеткамі цяжкая, але і вельмі ўдзячная. Нішто так не натхняе да далейшай працы як усмешка і задавальненне вучняў. Без гэтага я не была б настаўніцай.

**— Самы цудоўны ўспамін настаўніка беларускай мовы?**

— Я працую настаўніцай яшчэ не шмат гадоў, але ў мяне была ўжо магчымасць працаваць з самымі малышамі — двухгадовымі дзеткамі, па ўжо дарослых — сямнаццацігадовых ліцэістаў. І прызнаюся, я вельмі люблю працаваць з самымі малымі дзеткамі таму і вельмі міла ўспамінаю ўсе заняткі беларускай мовы ў дзіцячым садку.

**— Які нацыянальны сімвал упрыгожвае Ваш клас?**

— Пакуль што я ніколі не мела сваёй беларускай залы, але заўсёды старалася, каб у зале, у якой заняткі адбываліся, было нешта беларускае.

**— Як бачыце будучыню беларусаў?**

— Я аптымістычна падыходжу да жыцця, ды і будучыню беларусаў, хочацца мне, бачыць светлай. Вядома, нішто не прыходзіць само, але мне верыцца, што пакуль мы будзем за будучыню змагацца ўсе супольна, мы зможам усё.

Апытальнік правяла
Ганна КАНДРАЦЮК



**Віялета Нікіцюк-Перкоўская** дзяцінства правяла ў мясцовасці Старавесь, закончыла Бельскі белліцэй, а пасля беларускую філалогію ва Універсітэце ў Беластоку і стала дактаранткай сваёй навуковай установы. Зараз працуе ў II Агульнаадукацыйным ліцэі ў Беластоку і настаўніцай у Вышэйшай эканамічнай школе. Але пра сябе кажа, што яна найперш мама чатырохгадовай дачушкі Ліі, з якой праводзіць кожную свабодную хвіліну. Жыве ў Беластоку.





# Орля ў вачах солтыса

Размова з **Маркам ХМЯЛЕЎСКІМ**, солтысам, радным і грамадскім дзеячам.

— У час нашай размовы ў 2016 годзе Вы сказалі: „Пасля 16-й гадзіны Орля становіцца мястэчкам Твін-Пікс і калі падзьме вецер, то не хапае такіх краявідаў як цераз пустыню лятаюць круглыя кусты”. Які зараз краявід самой Орлі — лятаюць кусты?

— Яшчэ, на жаль, лятаюць, хаця трэба сказаць, што ўжо памаленьку ідзе да таго каб гэта не замірала. Раз: што зараз крамы даўжэй адкрыты, але гэта толькі таму, што хлопцы, „знаўцы” розных напояў яшчэ ўтрымліваюць рух у цэнтры Орлі; але гэта ў адмоўным значэнні. А восенню 2018 года паявіўся будынак Дома культуры, у якім з'явіўся новы персанал і новы шанс, задума на культуру, на тое, што мае адбывацца ў Орлі.

Але выкажу сваю пазіцыю — я зараз з'яўляюся радным Гміннай рады і адначасна солтысам Орлі. Гэта быццам узмацненне маёй пазіцыі адносна маіх задум наконт Орлі і што навокал павінна рабіцца, што хацелася б зрабіць.

Маем абраную салэцкую раду, якую я двойчы намагаўся сабраць. У параўнанні з папярэдняй радай цяпер іншыя людзі і іншая актыўнасць. Папярэднія былі больш актыўныя, хацелі ангажавацца, а цяпер быццам ахвотныя раіць дзядзечкі і аставацца збоку. Гэта такая складанасць і адказнасць звальваецца на мяне.

На канец дайшло адно звяно дэмакратыі, гэта салэцкі фонд, вялікая справа. Атрымалі байкаватую пульку грошай, 54 тысячы злотаў, якую самі можам размеркаваць на свае патрэбы. На сустрэчы з салэцкай радай і зацікаўленымі суб'ектамі абмеркавалі мы прапановы, а вясковы сход гэта адобрыў. За рэалізацыю тых задач солтыс адказны асабіста.

30 тысяч злотаў рашылі прызначыць на супольную мэту ўсіх салэцтваў — на куплю трактара з касілкай для абкошвання дарог, якія абочыны зарастаюць. Павятовыя і ваяводскія дарожныя ўправы не спраўляюцца з гэтым.

Шэсць тысяч злотаў рашылі прызначыць на клуба-кавярню ў Гміным цэнтры культуры, куды купім нейкія столікі, вялікі 75-дзюймавы тэлевізар, нейкую пасуду. Каб там можна было сустрэцца, пагуляць у карты, паглядзець нейкі матч, зладзіць агародчык — але без алкаголю — асабліва летам, калі няма што з сабою зрабіць і няма месца на сустрэчы. Мяркую, што гэтая справа пачнецца з вясны ці ад канікул; спачатку, эксперыментальна, будзе адкрыта да 22-й гадзіны.

Чарговая справа гэта выгляд Орлі, упрыгожанне — прызначылі на гэта 11 тысяч злотаў, на насаджэнне кветак, кустоў у парку і па вуліцах. Ёсць і такая задума, каб завесці ў цэнтры кветачныя палеткі, сланечнікі. Спадзяюся тут на дапамогу валанцёраў, старэйшых і малодшых, з якімі хочам сустрэцца разам увесну і падумаць як гэта загаспадарыць.

Тут яшчэ адна файная справа, бо прызначылі 5 тысяч злотаў на сфінансаванне праекта загаспадарання цэнтра Орлі. Самі ведаем, што ў нас тут, у Орлі, можна сказаць, што кожны сабака з іншай буды — кожны нешта робіць, а няма суцэльнай каардынацыі між паркам і нашымі найлепшымі помнікамі даўніны ці нейкімі новымі выдумкамі абліцаванымі полістыролам. Трэба гэта ўсё прымеркаваць да нейкага стылю; будуць запрошаны асобы, якія зоймуцца гэтым прафесійна.

Жыццё паказала, што трэба нам засяродзіцца на тэрыторыі бліжэй сінагогі, пры вуліцы Міцкевіча, стварыць нейкую інфармацыйна-турыстычную структуру, дзе спыняліся б турысты і знаёміліся з нашай мясцовасцю, помнікамі. І затрымліваліся там даўжэй. Але гэта справа будучыні.

Вядома, я, як солтыс, назіраю стан дарог, вуліц, тратуараў і г.д. Тут справа выглядае лягчэйшай, бо ёсць больш радных і войт на месцы. Перспектыўна хадайнічаем за рамонт Кляшчэлеўскай вуліцы.

І цікавая справа, што тая задума, якую яшчэ ўносіў я ў ранейшым тэрміне, калі балатаваўся на солтыса, дом дзённага прабывання для пенсіянераў — на месцы старога асяродка здароўя — памалу набірае канкрэтны выгляд. Наша Гмінная рада адступіла ад продажу таго будынка (ранейшыя Рада і войт былі за продажам) з пляцам 0,27 гектара. Верагодна атрымаем грошы на рамонт таго будынка. Гэта можа каштаваць каля мільёна злотаў, дзе 85 адсоткаў можам атрымаць з датацыі. Гэта патрэбная ўстанова, некаторыя нават не ведаюць пра такую патрэбу, але трэба кіравацца добрымі прыкладамі, з Польшчы, і ўводзіць гэта на нашу тэрыторыю, дзе амаль усе патрабуюць цыклічнага кантакту з лекарам герыятрам.

У нас, у Орлі, маем ужо прыклады прададзеных участкаў (грунт недабудаванага асяродка здароўя — М. М.), дзе ніхто нічога не робіць, той участак зарастае. А трэба браць прыклад з іншых гмін, напрыклад з Нараўкі, дзе войт скупляе і сам ініцыюе іх выкарыстанне.

Папросту трэба мець задумы. А ў нас, у Орлі, часам бракуе ідэі і ўсё робіцца бязладна, уразбіўку і не ладзіцца адно з другім. Сам бачыш — усё абязвечанае, бетоны, брусчаткі, усё з іншага цеста спечана.

З другога боку гледзячы, мінулы год пачаўся аптымістычна, была сустрэча няўрадавых арганізацый і здаваліся наяўнымі нейкія перспектывы супрацоўніцтва, але было расчараванне, хаця б пры суарганізацыі фэсту ў Орлі. Там прапановы арганізацый і дзеячаў не прымаюцца пад развагу, а ідзецца пракладзеным папярэднікамі шляхам, візіяй аднаго чалавека і ўсе маюць танцаваць вакол гэтага.

Далей, разглядаемся, каб стварыць уласны культурны праект, трывалы, каб не на адзін дзень, але на цэлы год. Каб да нас маглі людзі прыязджаць, каб Орля была вядомай. Апошнім часам файныя тэатры да нас прыязджалі. Можам мець „за грош” знакамітых мастакоў у сябе, раз у месяц. Таксама кіно на прыстойным узроўні.

Маем быццам на падносе сінагогу. Чаму не сарганізаваць нейкага клезмерскага фэсту? Каб людзі да нас прыязджалі, а не толькі адзін раз у год фэст і ... напіцца ў „Маэстра” разам з запрошанымі гасцямі.

Калі будуць турысты, спатрэбяцца начлегі, трэба іх накарміць. (У Орлі ўладальнік „Маэстра” завяршае будову гасцініцы — М. М.) Усе на гэтым скарыстаем і будзе файна, прыемна.

Я ўсё веру, я ідэаліст; яшчэ крыху такіх асоб ёсць. А жыццё ўносіць папраўкі, бо на некаторыя справы не маем уплыву. Я стараюся быць вышэй падзелаў наконт юдаікаў. Стараюся з Табою супрацоўнічаць і наколькі магу, дапамагаць, не абмяжоўвацца толькі да аднаго. Можа мы разам не абмяркоўваем, але маем супольныя мэты. Гэта ўсё ў карысць нашай мясцовасці.

Стараемся падтрымліваць, прынамсі духова, Тваю аграмадную работу. Сёння гаворыцца пра вусную гісторыю, а Мінцэвіч ужо 25 гадоў хадзіў і на касеты яе запісваў; мае сотні запісаных касет і няма лепшай гісторыі, чым там запісаная. І кажу: „Сёння вы вучыцеся таму, што мы ўжо даўно рабілі”. І гэта трэба цаніць; і файна, што ўсё гэта парадкуеш, апрацоўваеш.

А тыя арлянскія новапасяленцы? Маё першае ўражанне пяцігадовай даўнасці — па чым пазнаць, хто звонку Орлі? Я разношу плацежныя ордэры. Калі я іду да арлянца, то магу зайсці на панадворак і па цэлай хаце хадзіць. А ў новапасяленца то я магу пакалечыць сабе жывот, бо іду, а брамка заперта; такое было маё першае ўражанне. Зараз і нашы таксама замыкаюцца, бо здараюцца пакражы і т. п. Будучы солтысам, не хачу хадзіць як секвестратар, мне тыя працэнты непатрэбныя, але люблю кантакт з другім чалавекам, некаму дапамагчы, паразмаўляць. А некаторыя то і самі ў маю хату прыходзяць і заплаціць, і яшчэ паўгадзіны пасядзець і паразмаўляць, бо людзі патрабуюць таксама размовы. Мне вельмі падабаецца Твой кантакт з людзьмі, што ходзіш і запісваеш.

А гэтыя новыя канструкцыі, што побач сінагогі? Гэта я выконваў, хаця праект спалучаў некалькі дзеянняў. І тут фонд Футурум займаўся справамі звязанымі з аздабленнем — вышыўкай, шыццём, напрыклад торбаў з надпісам „з сінагогай у фоне”; рабілі гэта дзеці і дарослыя. Моладзь хадзіла па Орлі і фатаграфавала старыя дамы. І гэта натхняла, яны выканалі трохвымерныя хаткі і шыльды, аздабленні на хаты, а мы, дарослыя, зрабілі інсталяцыі. І наша інсталяцыя прыцягвае вока, у нейкім маштабе, але са старымі дзвярамі, вокнамі, аканіцамі. Яшчэ гэта будзе абсаджана нейкімі вітковымі раслінамі, мальвамі. І ўжо пры гэтым турысты выконваюць здымкі, чытаюць кароткія інфармацыі аб Орлі.

— Дзякую за размову.

Пытанне і фота **Міхала МІНЦЭВІЧА**



Мастацкая ўстаноўка са спасылкай на даваенную забудову Орлі са змешчанымі інфармацыямі

# Радыеактыўны цягнік „Тамара”



Пасля вайны чыгуначная станцыя Чаромха лічылася стратэгічным пунктам у Варшаўскай чыгуначнай дырэкцыі. Тут крыжаваліся чыгуначныя лініі ўсход-захад, затым поўнач-поўдзень. У асноўным была транзітнай пагранічнай станцыяй паміж ГДР і СССР. Праз Чаромху праязджала каля дваццаці гандлёвых і вайсковых цягнікоў у суткі. Рух гэтых апошніх узмацняўся вясною ў час супольных манёўраў Варшаўскага дагавора, затым у летнім сезоне ў час уборкі ўраджаю. Апрача згаданых цягнікоў праходзілі склады асаблівага назначэння, санітарныя ды цягнікі пад крыптанімам „Тамара”. Вось пра гэтыя апошнія хачу зараз успомніць, пакольні прыходзілася мне з імі сутыкацца як працаўніку пагранічнай станцыі ў Чаромсе.

З Семяноўкі перавялі мяне ў Чаромху ў лістападзе 1974 года. Працаваў я агентам у канторы перадачы. Да службовых абавязкаў належала афармленне дакументаў транзітных і айчынных цягнікоў агентам прыёмнай станцыі СЖД Высока-Літоўск. На гэтай пасадзе працаваў больш за дваццаць год. Тут упершыню спаткаўся са шматлюдным натоўпам савецкіх салдат, таксама айчынных і нямецкіх, якія падаваліся на манеўры войск Варшаўскага дагавора. Манеўры такія арганізаваліся вясною раз на некалькі гадоў. Прывілеяванымі былі санітарныя цягнікі. Складаліся з васьмі-дзесяці пасажырскіх вагонаў з аховай савецкіх вартаўнікоў. Вокны былі забяспечаны кратамі. Кругласутачную варту неслі два вартаўнікі, у пачатку ды ў канцы складу. Гаворка ішла, што ў вагонах перавозілі „ашалелых” салдат з ГДР (пасля афганскага фронту) на лячэнне ў СССР. Такія цягнікі адпраўляліся па-за чаргой. Аб падыходзе санітарнага цягніка перадаваў ведамасць дыспетчар па аддзяленні ў Седльцах чаромхаўскаму дзяжурнаму распарадчыку. Затым гэты перадаваў каманду агентам. Афармленне дакументаў агентамі ды праверка афіцэрамі ЗКУ доўжылася не больш дзвюх-трох гадзін, пакольні таварныя цягнікі чакалі часам у чарзе некалі сутак.

Іншага віду былі цягнікі асаблівага назначэння. Азначаліся яны крыптанімам „Тамара”, а перавозілі радыеактыўныя адходы. Праз дванаццаць год (1972-1984) былі „асаблівай” таямніцай Рэчы Паспалітай і органаў бяспекі. Цягнік з радыеактыўнымі адходамі быў прыняты на польскім баку пагранічнай станцыяй для перавозкі негабарытнага грузу Костшынь і падаваўся па маршруце Гожуў-Велькапольскі, Хойніцы, Дзялдова, Ольштын, Беласток і ў Чаромсе перадаваўся на чыгуначную станцыю СЖД Высока-Літоўск. Тагачасным уладам было вядома, што ў выпадку чыгуначнай аварыі магло дайсці да выпраменьвання і забруджання асяроддзя. Але аб гэтым ніхто людзей не інфармаваў. Выпаленае ядзернае паліва „Тамара” перавозіла з атамнай электрастанцыі ў Райнсбергу (ГДР) у напрамку СССР. Вага „Тамары” складала брута чатырыста тон. Перад праездам цягніка праходзіў пілатажны лакаматыў. У саставе некалькіх вагонаў і вядучага лакаматыва знаходзіўся вагон вагой у восемдзесят тон брута з небяспечнай перасылкай — каля чатырох тон выпаленага ядзернага паліва. Для бяспечнага праезду „Тамары” наймалася функцыянераў міліцыі, службы аховы чыгункі (СОК), ОРМО ды вайскоўцаў. Цягнік на адкрытай тэрыторыі рухаўся з хуткасцю 40 км/гадз., праз заселеныя кварталы — 20 км/гадз., а на паваротах і віядуках — 10 км/гадз. На станцыі ў Хойніцах цягнік „Тамара” кожны раз спыняўся на 50 мінут, паміж 3-й і 5-й гадзінай. Ахову тады неслі функцыянеры СОК. Па маршруце праезду „Тамары” на кожнай станцыі была арганізавана ахова бяспечнасці. Вагон з радыеактыўным грузам спераду і ззаду быў забяспечаны буфернымі вагонамі. Кожны чыгуначны пераезд забяспечвала двух вартаўнікоў чыгункі. Такія сродкі бяспечнасці прымаліся дзеля прадухілення дарожнай аварыі з аўтамабілямі. На час праезду рыхтавалася двайная абслуга цягніка і тэхнічная абслуга. Апошні цягнік „Тамара” быў здадзены на чыгунку СЖД на чаромхаўскай пагранічнай станцыі ў 1990 годзе.

**Уладзімір СІДАРУК**

# Паэтычная вечарына ў Лешуках

Вечарам 15 лютага гэтага года (якраз на Грамніцы) ярка свяціліся вокны ў новапабудаванай прыгожай святліцы ў Лешуках Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета. На панадворку і вуліцы стаялі аўтамашыны. З двух бакоў вёскі-вуліцоўкі ішлі групкі жанчын і мужчын. Калі мы прыехалі з братам з Новага Ляўкова, у святліцы сабралася шмат людзей. Гэта таму, што мясцовае актыўнае Таварыства „Ятрышнік” („Storczyk”) і Галена-Марыёля Рэнт, солтыс Лешукоў, арганізавалі сустрэчу з беларускімі паэтамі, якія пражываюць у Нараўчанскай гміне. Такіх мерапрыемстваў тут яшчэ не было.



У Лешукі прыехалі Кастусь Целушэцкі з Новага Ляўкова, Вера Радзіванюк і Аляксандр Радзіванюк (маці і сын) з Міхнаўкі ды Аля Ясвіловіч з Семяноўкі. Не прамінула нагоды, каб сюды прыехаць журналістка беларускіх перадач Польскага радыё Беласток. У Лешукі завіталі нават некаторыя жыхары Церамкоў і Плянты.

Мерапрыемства пачалося а гадзіне 16-й. Панавала мілая і сардэчная атмасфера. Слухачам вершы падабаліся (некаторыя лірычныя і сатырычныя былі вельмі даспадобы) і яны ўспрымалі іх бурнымі воплескамі. Двухгадзінны час цікавай сустрэчы хутка праляцеў. Але быў час на салодкі пачастунак, каву, гарбату. Падахвочаны аднавяскоўцамі Аляксандр Харкевіч прыгожа праспяваў дзве песні — рускую і беларускую. І на заканчэнне былі памятныя падарункі паэтам.



**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

## У пошуках мастоў супрацоўніцтва. Візіт дэлегацыі горада Седльцы ў Брэст

Па запрашэнні самаўрадавых улад у Брэсце пабывала дэлегацыя горада Седльцы. Разам з прэзідэнтам горада Анджэем Сітнікам дэлегацыю склалі прадпрымальнікі Усходняй гаспадарчай палаты — Зэнон Ходовец (старшыня) і Анджэй Галах. Галоўнай мэтай візіту было наладжванне сувязей бізнесовага характару. Сядльчане правялі шэраг дзелавых сустрэч, перш за ўсё з уладамі горада Брэста, прадпрымальнікамі, згуртаванымі ў Беларускай прамыслова-гандлёвай палаце, прадстаўнікамі турыстычных фірм, а таксама нанеслі візіт у Брэсцкі дзяржаўны ўніверсітэт імя Аляксандра Пушкіна. Апрача таго наведалі мясцовыя прамысловыя прадпрыемствы і пазнаёміліся з турыстычнай інфраструктурай.



Як адзначыў Анджэй Сітнік, абодва гарады аддалены на сто кіламетраў, што ў значнай ступені аблягчае і зніжае кошт узаемнага супрацоўніцтва. Адначасна адчуваецца запатрабаванасць ва ўзаемных кантактах. Як сам прызнаўся, у Брэст прыехаў ён першы раз у жыцці. „Мы адкрыты на супрацоўніцтва. Наша задача — мінімізацыя бар'ераў, каб нашым жыхарам аблегчыць кантакты. Асаблівае значэнне мае садзейнічанне прадпрымальнікаў, пакольні яно непасрэдна ўплывае на ўзровень жыцця па абодва бакі мяжы”, — сказаў А. Сітнік.

Гандлёвы абмен брэсцкіх прадпрымальнікаў з партнёрамі ў Польшчы складае 170 млн. долараў у год. Аднак патэнцыял абмену значна большы. Улады Брэста шукаюць тады магчымасцей павялічыць маштаб абмену. Першы намеснік старшыні Брэсцкага гарвыканкама Вадзім Краўчук выказаў спадзяванне, што візіт сядлецкай дэлегацыі спрычыніцца да росту аб'ёму эканамічнага супрацоўніцтва і стварэння новых месцаў працы. Кіраўнік адміністрацыі Ленінскага раёна Брэста Валянцін Мілашэўскі ў сваю чаргу звярнуў увагу на шэраг плоскасцей патэнцыяльнага супрацоўніцтва, такіх як культура, асвета, медыцына, якія будуць прыбліжаць грамадзян абодвух краін. У размове з „Нівай” Анджэй Сітнік сказаў, што Брэст зацікаўлены ў развіцці ўзаемных эканамічных, культурных і грамадскіх кантактаў з Польшчай. Гэта прынясе карысць для ўсіх, таму горад Седльцы будзе садзейнічаць паасобным установам у наладжванні кантактаў. У падобным тоне выказваўся і Зэнон Ходовец. Адзначыў ён таксама, што візіт у Брэст — элемент рэалізацыі статутных мэт Усходняй гаспадарчай палаты. Адной з іх з'яўляецца дапамога ў заключэнні кантрактаў і знаходжанні партнёраў. Дзякуючы гэтаму растуць даходы фірм.

Брэст з'яўляецца важным прамысловым і транспартным цэнтрам, які налічвае 350 тысяч жыхароў. Адной з дынамічна развітых сфер з'яўляецца тут турызм. Горад ляжыць у зоне бязвізавага руху. Аднак каб наведаць Брэст, трэба выкупіць турыстычную паслугу. Брэст заключыў 34 дамовы аб супрацоўніцтве з гарадамі-патрнёрамі за мяжой, у тым ліку з чатырма ў Польшчы — Белай-Падляшскай, Люблінам, Тарэспальскай гмінай і Сядлецкім паветам. Сам горад Седльцы не з'яўляецца партнёрам Брэста. Аднак супрацоўніцтва ўжо здаўна вялі некаторыя ўстановы, напрыклад перыядычныя выданні „Tygodnik Siedlecki” і „Вячэрні Брэст” рэалізавалі шэраг супольных праектаў. Падчас апошняга візіту прэзідэнта горада А. Сітніка і прадпрымальнікаў вырашана інтэнсіфікаваць садзейнічанне прадпрымальнікаў і ўстаноў абодвух гарадоў. Такім чынам пачаўся пошук мастоў супрацоўніцтва так, каб мяжа не дзяліла, а толькі стварала новыя магчымасці развіцця па абодвух яе баках.

**Адам Бобрык**

Фота: Мікалай Чабяркус



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка

для дзяцей і моладзі

# Зэнэк Мартынюк у „Зорцы”



Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

АДБЫЛІСЯ КОНКУРСЫ

Усе гавораць пра Зэнка Мартынюка, дык і мы дакінем два словы. Кароль дыскапольнай музыкі ў Польшчы, яшчэ як школьнік ПШ у Пашкоўшчыне, стаў лаўрэатам І месца конкурсу «Беларуская песня—82». І дадаткова яшчэ атрымаў спецыяльную ўзнагароду «Зоркі». Яго сімпатычнае фота аздабляе старонку і рэпартаж легендарнай Яніны Чарнякевіч, тагачаснай рэдактар „Зоркі”. Там, між іншым, чытаем, што будучы кароль, праспяваў пад гітару „Алёну” і „Гродзенскі вальс”. Конкурс праходзіў у будынку БГКТ, што па вуліцы Варшаўскай у Беластоку. Праўда, не было тады вялікай канкурэнцыі — усіх спевакоў, у тым ліку дуэты і адзін калектыў, разам складалі 14 асоб. Той жа калектыў з ПШ у Трасцянцы атрымаў першае месца ў сваёй катэгорыі. Як не цікава, арганізатары разам правялі дэкламатарскі конкурс, прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа. Усіх дэкламатараў было 22 (разам ліцэісты і вучні ПШ), кожны з якіх падрыхтаваў два творы.

І тут чарговы сюрпрыз! Першыя месцы заваявалі Аліна Бурыла і Ёля Зіневіч з Бельскага белліцэя. Так, так! Аліна Бурыла — вядомая і не менш слаўная за Зэнка Мартынюка настаўніца з беластоцкай «чацвёркі». Першае месца ў групе малодшых атрымаў Янка Карнілюк са школы ў Дубічах-Царкоўных. Усё мерапрыемства, якое сабрала паўсотні публікі (гэта ўдзельнікі і настаўнікі) аўтар рэпартажу лічыць надта масавым. А тое, што выступіла больш дэкламатараў, чым спевакоў — заслуга настаўнікаў, якія больш цікавяцца літаратурай, чым музыкай. Урэшце, апошняе слова належыць візітатар Тамары Русачык, якая хваліць усіх выступоўцаў, а найбольш вучняў з Дубіч-Царкоўных

Эх! Як многа памянялася і адначасова не памянялася. Няма ўжо школ у Пашкоўшчыне і Трасцянцы. Зусім іншае ў нас паняцце пра «масавасць» конкурсу. Зараз толькі з адной праваслаўнай школы ў Беластоку прыходзіць на конкурс паўсотні вучняў! І хоць з тае пары прайшло 38 гадоў такія песні як «Алёна» і «Гродзенскі вальс» далей цешаць і выканаўцаў, і журы. **(гак)**

Стары Дзік

## Бусліныя справы

Летнім ранкам
клёкат бусла
чуваць з буслянкаў.
Бел-чырвона-чорны
ў сваім клекатанні
ён быццам нястомны.

Стаіць бусел
у балоце,
з'есці тут
кагосьці хоча.
Кле-кле-кле,
кле-кле-кле,
бусел жабку
хутка з'есць.

Можа жабкі,
можа мышкі,
з голаду іграюць
бусліныя кішкі.
Кум-кум-кум-ка
кум-кум-ка-ка,
жабка буслу
ізноў уцякла.

Дзюба ўлева,
дзюба ўправа
злавіць ежу
няпроста справа.
Цяпер ціша,
мык вачыма
паглынуў жабку
і вужаку шчасліва.

Па нябеснай дарозе
заляцеў на пожню,
мышку палявую
дзюбануў апошняй.
З радасным клёкатам
вярнуўся ў буслянку,
павячэраў з сям'ёю
Клеканаў... і заснуў аж да ранку.

# Міфы
## старажытных беларусаў

Малочны шлях, Стан — беларусы называюць Птушыным шляхам або Гусінай дарогай.

Людзі верылі, што яго зрабіў сам Бог, каб гусі і іншыя птушкі бачылі, як даляцець да выраю.

Сярод іншых назваў Малочны шлях называлі Чумацкай дарогай, Вялікім слупам, або Станам. Назва Вялікі слуп паходзіць ад таго, што цёмнымі восеньскімі начамі Гусіны шлях напамінаў вертыкальна пастаўлены слуп. Старажытныя беларусы звязвалі яго з воссю свету. Верылі таксама, што ад інтэнсіўнасці Птушынага шляху залежыць малочнасць кароў, казуль, зуброў. Як не цікава, яны верылі, што чым ярчэйшы быў шлях, тым меншай была ўдойнасць рагатай жывёлы. Лічылі, што калькасць малака ў кароў паменшылася, бо яна сплывала на Малочны шлях.

Апошняе павер'е адлюстраванае ў замовах супраць пакражы малака вядзьмаркамі і чарадзеямі.

(Адрэзак адрэдагаваны на аснове кніжкі Алены Коршак «Беларуская міфалогія для дзяцей») *(гак)*

**УВАГА КОНКУРС! № 08-20**

**У вадзе радзілася, а вады баіцца.**

**С...**

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 2 сакавіка 2020 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Загадкі з роднай хаткі**

**Адказ на загадку № 4-2020: зоркі. Узнагароду, кніжку «Бабаўняная дзяўчынка» Дар'і Вашкевіч, выйграла Оля Мадзалеўская з Нарвы. Віншуем!**

# Маладыя маюць голас.

Восемдзесят адзін беларускіх выканаўцаў выступіла ў Беластоку. У Падляшскай філармоніі прайшоў цэнтральны агляд конкурсу „Беларуская песня”. На сцэне можна было пабачыць вядомыя беларускія калектывы, такія як „Цаглінкі” ці „Васілёчкі”, але таксама і маладых дэбютантаў.

— Гэта, канешне, вельмі важна для нас, бо фестываль паказвае ўдзел моладзі ў беларускай песні, у беларускай культуры, — адзначыў намеснік старшыні Беларускага грамадска-культурнага таварыства Васіль Сегень. — Тыя, якія дасягнулі ўжо шасцідзесяці гадоў, ахвотна прэзентуюцца на сцэне. Моладзі ў нас нямала, вядома, хацелася б, каб было яе яшчэ больш — старэйшае пакаленне адыходзіць. Ёсць асяродкі, якія на ніве беларускай культуры, на ніве беларускай песні вядомыя ўжо даўно, гэта перш за ўсё Гайнаўка, Гайнаўскі дом культуры з беларускім ліцэем. Таксама і Бельскі дом культуры і беларускія школы ў Бельску, яны ўжо шмат гадоў развіваюць беларускую культуру сярод дзяцей і моладзі. Варта адзначыць, што паяўляюцца маладыя спевакі, спявачкі ў іншых асяродках. У Міхалове на той прыклад робіцца такі буйны маладзёвы гурт беларускай песні. З’яўляюцца і такія паасобныя ізюмінкі на карце Беласточчыны. Нас ужо чарговы год вельмі прыемна здзівіў малады калектыў „Салат’юм” з Дубровы-Беластоцкай, які спявае белым спевам.

Як мы даведаліся „Салат’юм” гэта калектыў з Дубровы-Беластоцкай, у якім спяваюць вучні Дуброўскага ліцэя. Майстар-класы па белым спеве дзяўчаты і Ёахім (адзін хлопец у калектыве) прайшлі пад пільным вокам Марціна Ліцьвінкі, які з’яўляецца вядомым дзеячам і аніматарам культуры. За чатыры месяцы калектыў „Салат’юм” у рамках праекту „Гукі традыцыі” даведаліся пра традыцыі белага спеву, пазналі тэхніку і шырокі рэпертуар песень, якія калісьці суправаджалі жыхароў Сакольшчыны ў паўсядзённым жыцці.

— Мы — маладыя, але нас натхняюць гэтыя песні, — адзначыла Магдалена Мілеўская з гурту „Салат’юм”. — Гэта даволі складана, бо нам трэба было вывучыць тэхніку белага спеву. Нашы бабулі і дзядулі мелі гэта ад нараджэння, бо спявалі ўсе разам. А мы мусілі вучыцца. І гэта нам атрымалася. Спадзяюся, што слухачы згодныя (*смех*).

Конкурс „Беларуская песня” напэўна дае штуршок дзеля гэтага, каб рэалізаваць свае мары, звязаныя з музычнай творчасцю. Поўная зала гледачоў у Падляшскай філармоніі напэўна таксама вучыць маладых людзей змагацца са стрэсам, а выступ на сцэне для іх — важная падзея.



„Салат’юм”

## І то які!



„Белыя крылы”



Магдалена Андрэюк

— Я само ў гэтым годзе далучылася да калектыву, — сказала перад выступам Магдалена Андрэюк з калектыву „Росы” з Рыбалаў. — Вельмі прыемная атмасфера ў час рэпетыцыі, проста, наш калектыў аб’ядноўвае цікавых людзей. Заўсёды перажываю кожны выступ.

А гэтых, як адзначыла Магдалена, вельмі многа. Калектыў часта выступае ў Бельску, Гайнаўцы і, вядома, у Беластоку. У час суботняга агляду калектыў „Росы” заспяваў песню, якая з’яўляецца самай любімай песняй Магды, „О, матуля мая”.

У чацвер (20.02) на гала-канцэрце выступіць „Салат’юм” з Дубровы, а таксама нашы сябры з Міхалова — „Белыя крылы”, якія сваім поспехам зразу падзяліліся з намі ў фейсбуку. Віншуем! Хаця самае галоўнае, што праз гэты конкурс некаторыя маюць магчымасць вывучаць беларускую мову ў даволі прыемны спосаб. Дзякуючы песні можам узбагаціць свой слоўнікавы запас і адшліфаваць вымаўленне па-беларуску. Пры нагодзе можна даведацца больш аб нас саміх, бо песня гэта часта зашыфраваная інфармацыя пра наша мінулае.

**Тэкст і фота Уля ШУБЗДА**

## Польска-беларуская крыжаванка № 08-20

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 4-2020:**

Ясь, Яга, бег, атава, лук, ас, міг, старт, нарцыс, Ян, гарох, сліна. Збан, плюс, галіна, туга, смык, сцяг, Мартына, азарт, гумар, ах, страха.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Оля Кардаш, Клаўдзія Ніканчук, Тамаш Ваўранюк, Оля Мадзалеўская** з Нарвы, **Міхась Лаўрашук** з Нараўкі, **Вікторыя Залеўская, Нікіта Кумейка, Ніколя Бялінская** з Орлі, **Марк Дружба, Якуб Аўярчук** з Арэшкава. Віншуем!

Konwalia
Prom
Językoznawca
Klin
Zejście
Park
Ryż
Och
Błoto
Pi
Rosa
Wech
Interes
Baran
Mróz
Samowar
Krawędź
Przylaszczka
Nos
Ona
Oset
Jar
Woźnica
Smak
Bierz
Raj

# Вершы Міры ЛУКШЫ



## Дарога

Гэта не я праходжу праз дарогу.
Гэта дарога праходзіць праз мяне.
Дарога перасякае лёс і лес мой і тваёй прабабкі,
што пешшу хадзіла на рынак у Гродна.
Ты стаіш на ёй, не памятаўшы,
што цябе тут ужо няма ад трыццаць першага снежня,
а ў нашай памяці застаўся твой нахабны смех
і вершы, якія загадваў ты запісваць ноччу
па-свойму, на спалучэннях бачных толькі
прасаромленым анёлам.

## Студня

Нахілюся над студняй,
загляну ў сябе.
Жораў вядро калыша
высока і спявае над яблыняй.
Далей б'е крыніца сцюдзёнай вады.
Хоць Лысы, што піў яе, здзьмухнуўшы
храпамі нябачны лісток,
даўно ўжо ходзіць за нябесным плугам,
лёгка пераворваючы барозны хмар,
а карова Піпка з бубачкай на пысе,
што ўцягвала халодную ваду заплюшчыўшы вочы
пад веерам цялячых веек,
ужо пэўна даўно з'едзена, а яе душа брыкае
па нябесных лугах пад вясёлкай,
па якой адышлі нашы жывёлы,
Мурка Бурык, Пушок, Роза, Тэцька,
Сарго, Рэксё, Аза, Пуся, Аста, Філя і іншыя
і чакаюць нас там пад сваім лесам.
А жораў нам усім спявае
высока на ветры, і скрыпіць вядзерцам.

## Гарабінка

Нарадзілася я трынаццаць гадоў пасля другой вайны
мінулага стагоддзя, у Гайнаўцы,
але сапраўды стала прыходзіць на свет
ужо ў Бярнацкім Мосце, ножкамі да неба і зямлі,
што быццам важнае ў развагах астролагаў,
перад дзясятай зранку, у родзе,
у якім хтосьці выкляў першародных
і асудзіў іх на блуканне па чужых землях,
ва ўцёках перад тымі, што не хочуць ведаць нашай мовы.
Найстарэйшы, Дзмітры, пільнаваў падлітай потам зямлі,
хаця хістаўся пасярод выбухаў і новых поўняў і маладзікоў.
Найстарэйшая, Люба, давяла брата да айчыны з лямпай у далоні.
Мой новы дом абмінула новая вайна. Западаецца ў глебу,
пасаджаны на пяску. Мае ногі брыдуць па маёй Зямлі,
па якой ганяліся арміі пад рознымі крыжамі.
Арабіна ў Баравых на 277 гадоў упілася
на цэлыя паверхі ў глыб маёй бацькаўшчыны,
чырвоныя ягады ў хмарах, гарабінка,
нават калі ссякуць яе нашы добрыя людзі.

## Гора

гарэла сасна
ці яна мела
нацыянальныя колеры
на сваіх флагштоках

магла быць домам
кругам студні
калыскай
сталом
труной

загінула на вайне
дрэва
расстралянае адскокам
за чалавека

памёр конь ваяра
і конь у гнаянках
што мераў поле
баразна за баразной

заараныя гісторыяй

пакланіліся лесу штыкеты
слуп зноў выпусціў карані

## У Меляшках

Цвік у кургане
убіўся ў мой малы ступак
у дзень калі мы селі на Месяцы

дзіцячая жывая кроў
паплыла да тых што ў зямлі
чакаюць нашага ўваскрашэння

я затуляла рану крываўнікам
бабкай-трыпутнікам
іх жывым сокам
слёзы капалі на мацярдушку
арэгана чарнобыль

я — род-ная!
задрыжала Зямля
ўратаваная

## Палёт як у сне ў Баб'ю Гару

Слова як энергія загінае прастору,
а ў машыне сёння пралятаю дарогу, якою
хадзіла я восем гадоў у школу ў Семяноўцы,
па мяжы паміж Княствам і Каронай.
Размаўляем з Юркам Раецкім усімі мовамі
Падляшша, а Лібор Зайчэк слухае і глядзіць. Ано.
Ляцім як у сне праз дарогу выгнаных,
пацыфікаваных, памерлых і народжаных,
везеных у царкву святога Юрыя Пераможцы,
на могільнік да святога Панцеляймона,
на забавы, хрэсьбіны, вяселлі, на станцыю, па ежу ў краму
і кніжкі ў бібліятэцы, адкрываючыя іншы свет.
Свет іншы ў кожнай секундзе, і не ведаю калі
канчаецца ўчора. Толькі сівы волас
нясе вецер бабінага лета як павуцінне за намі.

## Залаты зуб

Хто выраваў залаты зуб
старому Злотніку з Нараўкі?
Іван не ведае, бо не памятае.
Яму 92 гады. Добры кавалак часу,
каб можна было забыць пра суседзяў,
ведзеных на бойню. Валаклі
цёплыя яшчэ пярыны, шафкі і посуд,
адзенне з добрай тканіны — бо нашто ім
гэтае дабро на ўлонні Аўраама. Гэта нішто,
што суседзі былі добрыя людзі і гаварылі па-нашаму.
І Спрынца там была,
пяць гадоў старэйшая ад Івана, а гэта не выпадае
браць за жонку старэйшую, у дадатку старазапаветную.
Знікла, прапала, выблекла ў памяці,
Пэўна, спалілі яе. У энергію памяці
замяніліся Спрынца Златнічанка, яе сваякі, бацькі.
У гэтым быў упэўнены Іван аж да канца веку,
калі голас яму ўжо стыг і блекла васількове вока.
Тыя, сказаў Мікалай, што ў кіпцюры хапалі
чалавечае дабро, Божая справядлівасць дасягала
і дасягне, хоць бы да іх грудзей медалі прыбівалі,
і сучы сыны сканаюць, хай бы і пры біцці званоў.
А Спрынца, Іване, выжыла. Пра гэта ўжо ведаеш,
Вы сустрэліся там, і нагаварыліся ўволю,
Пра сваіх дзяцей, унукаў, праўнукаў, Нараўку.
І вашы здымкі, старэчаў, вісяць побач у Нью-Йорку,
на сайце бязмежнага Інтэрнэту — касмічнага сеціва.

## як дзве кроплі

айчына шматкроць
у люстрах калюг і небаў
лінзах расы
і дажджу
і слязе
сплываючай па шчацэ дзіцяці
і змаршчыне
у кроплі
на шыбе
акна расчыненага
няўсцяж
айчыннай oj-czystej

## Мінутыя

Кім з'яўляецца тая жанчына,
з профілем утуленым у хустку
шаліноўку, такіх сёння не носяць,
вынятую з куфра і пахучую зеллем багуна,
а мужчына ў кажушку тхнучым
пахам дзедкі Івана ідучага
слядамі зазімку на нашым падворку,
з сенам на вілах, з вядром стравы для свіней.
Падаюць палены ў снег, жалеза прыліпае
да пальцаў без рукавічак, мароз,
а, можа, прытуліш свой язык да язычка клямкі?
А там ідзе Жоржык, не маленькі як калісь,
і падае ў вырасаваны ў памяці роў ля грэблі,
прыток Буяўкі, дзе рукамі выбіралі мы
рыбы і ракаў. Мінаем сябе з сабой з дзяцінства.



**Люба САКОВІЧ**
Міхалова




## Міхалова

У Міхалове добра жыць.
Тут не трэба ніц рабіць,
Адно ў парку пасядзець,
На фантанчык паглядзець.

Калі з фантана б’е вада,
Тады дзяцей цэла гурба.
Дзеці бегаюць заўзята.
Сонца грэе — то нам свята!

А ты, старык, ужо падбылы,
Бегаць, як дзеці, не маеш сілы.
Штурні ты бабу пад бачок:
Давай, далучымся ў кружок!

Ідзі ты першы, я за табой:
Калі ты ўпадзеш, я з табой.
Ляжаць мы будзем і крычаць,
«Пагатове» трэба зваць.

Не раўняйся да дзяцей!
Табе не будзя весялей.
Лепш на лаўцы пасядзім,
На прыроду паглядзім.

## Бяда нежанатаму

Я жыву на вёсцы,
І я тут паную.
Цэлы дзень у полі
З трахтарам гарую.

Сусед мая жонку,
Яна мае дзеці.
Я не маю жонкі,
Няма з кім пасядзеці.

У час не ажаніўся,
Цяпер бяду маю.
На чужыя жонкі
З боку паглядаю.

Гэтая хароша,
І гэта неўрадліва.
Будзь з ёй асцярожны,
Бо яна здрадліва.

Табе паабяцае
І дасць прытуліцца.
Калі маеш грошы,
Мо з табой праспіцца.

Яна грошы возьмя
Ды пойдзе дахаты.
А ты будзяш думаць:
Чом я нежанаты?

Жанатаму то добра,
Усе выгоды мае.
На чужыя жонкі
Ён не спаглядае.

## Фольк

Фольк — сустрэча беларуска,
Міхалова знае.
Жыхароў з цэлай акаліцы
Сюды запрашае.

Кожны едзе хто чым можа,
Каб тут пабываці,
Паслухаць песень беларускіх
І разам святкаваці.

Хаця субота то не свята,
Дзень вольны ад работы.
Сэрца цешыцца, ламоча,
Сядзіш без турботы.

Як зайграюць беларусы,
Ногі самі ходзяць.
А палякі, добры людзі,
Ад іх не адходзяць.

Усе спяваймо і гуляймо,
Хай цэлы свет знае,
Што «Беларуская Фольк-сустрэча»
Нам здароўя прыбаўляе.

І я здароўя ўсім жадаю,
Прыбытку да хаты.
Дастаняш «пяцьсот плюс»
І будзяш багаты.

## Жыццё

Я на пенсіі пражываю.
Кожны месяц грошы маю
На аплаты і на яду.
Так у дастатку я жыву.

Раблю я тое, што магу,
Ем усё, што я люблю.
Толькі жаль да лёсу маю,
Што здароўя ўжо не знаю.

Я не ведаю цяпер,
Калі мне жыць будзя ляпей.
Усе выгоды я тут маю.
Як дажываць буду — гадаю.

Можа, смерць прыйдзе ў пару.
Устану, упаду ды памру.
Дай Бог пры сілах уміраць
І нікому не дакучаць.

То словы майго таты,
Ён маліўся, каб нікому не дакучаў.
Даспяваў, як грушка ўпаў.
Так бацюшка Канаховіч пры труне сказаў.

Мама тожа ўсё малілася,
Заснула і не прабудзілася.
У зямлі ляжаць іхнія косці,
А душы ў небе госцяць.

## Мінулае, а не забытае

Месяц кастрычнік — так яго назвалі,
Бо кастрыцу ад лёну жанчыны аддзялялі.
Лён на ямах сушылі, на церніцах церлі,
Трапачкамі трапалі, на шчотках часалі.
Гатовае валакно ў кудзелю вязалі,
На калаўротках пралі ды песні спявалі.
Спрадзены ніткі на матавідла маталі,
З маткоў вывівалі, на сноўніцы снавалі.
Із сноўніцы здымалі, на кросна навівалі.
Усялякія палотны на кроснах вытыкалі.
Кужаль, прастыня ды ручнік,
Мяшок, плахта і сяльнік.
Цяжка жыццё жанчыны на вёсцы мелі,
Пралі, ткалі, есці варылі
І ласкава да мужыкоў гаварылі.

## Дажынкі

Дажынкі ў вёсцы
Гэта велька радасць.
Пазбіраліся суседзі
І сядзяць усе радам.

Тут Ванік з Галінай
І Чэсек з Рэгінай,
Міша з Басяй
Ды Янак з Ясяй.

Сядзяць, размаўляюць,
Галовы прыгнулі.
Здаецца, што мы нядаўна
Сваіх жонак у Юшкаў Груд прыцягнулі.

Мы ўжо пастарэлі,
Вушы штораз менш чуюць,
А на нашых гаспадарках
Нашы дзеці цяжка працуюць.

Няхай працуюць
І ў дастатку жывуць.
А калі нас не стане,
Няхай добрым словам ўспамінуць.

Мы вельмі шчаслівы,
Што ў Юшкавым Грудзе пражываем,
Калі каму што трэба,
Адзін другому дапамагаем.

Юшкаў Груд вёска
На ўзгорках ляжыць,
А ў даліне рэчка
Юшка бяжыць.

Калі хочаш пабачыць,
Ці гэта так,
Прыедзь, пабачыш,
І скажаш, што так.

1 ☞ працяг

# Запісацца беларусамі

гміны многа асоб купляла ў мяне «Ніву» і ахвотна яе чыталі, — сказаў ніўскі карэспандэнт Мікалай Панфілюк з Дубіч-Царкоўных.

Войт Лявон Малашэўскі ўдакладняе, што пробны Нацыянальны ўсеагульны перапіс насельніцтва і кватэр будзе адбывацца ў трох этапах. Спачатку жыхары Дубіцкай гміны атрымаюць коды доступу да матэрыялаў на сайце Галоўнага статыстычнага ведамства і з дапамогай інтэрнэту будуць маглі там самі адказаць на ўсе пытанні. Старэйшым асобам будуць маглі дапамагчы ў гэтым плане дзеці або ўнукі, але частка пенсіянераў не атрымае такой дапамогі ад сямейнікаў.

— У нашай гміне складана было б жыхарам без дапамогі гміннай управы справіцца ў час першага этапу Нацыянальнага ўсеагульнага перапісу насельніцтва і кватэр, паколькі жыве ў нас многа старэйшых асоб, якія не карыстаюцца інтэрнэтам. Пры гэтым у частцы пушчанскіх вёсак стацыянарныя тэлефоны былі даведзены толькі да солтысаў і зараз жыхары карыстаюцца там толькі мабільнікамі. Малодшыя асобы карыстаюцца там інтэрнэтам мабільнай тэлефоніі, але па-рознаму бывае з даступнасцю. Мы рашыліся, што ва ўсіх вёсках, перш за ўсё ў святліцах, у час першага этапу перапісу будуць дзяжурыць працаўнікі гміннай управы. Яны будуць дапамагаць жыхарам спалучыцца праз наш камп'ютар з сайтам Галоўнага статыстычнага ведамства і запоўніць там перапісныя бланкі. У выпадку асоб, якія самі не справяцца з перапісам па інтэрнэце і не пакарыстаюцца дапамогай нашых працаўнікоў, патэлефануюць ім перапісчыкі і папросяць па тэлефоне паінфармаваць аб усіх даных. Гэтыя два этапы перапісу будзе праводзіць Статыстычнае ведамства ў Беластоку з дапамогай працаўнікоў нашай гміны. Калі нехта не спішацца ў час двух этапаў, тады трэці этап перапісу будзе ўжо ладзіць гмінная ўправа. Па двух перапісчыках ад гміннай управы і статыстычнага ведамства будуць тады заходзіць да ўсіх няспісаных жыхароў гміны і на месцы ставіць ім пытанні з анкеты, — распавёў войт Лявон Малашэўскі пра планаваны ход перапісу.



■ У духоўна-адукацыйным цэнтры Дубіч-Царкоўных, побач царквы Пакровы Божай Маці, распалажаны мураваны будынак пачатковай школы, дзе амаль усе вучні ходзяць на заняткі беларускай мовы і перароблены на музейчык драўляны школьны будынак

У час перапісу жыхары Дубіцкай гміны будуць адказваць на пытанні, якія будуць тычыцца, між іншым, іх нацыянальнасці, дамоў і кватэр, у якіх жывуць. На падставе пробнага Нацыянальнага ўсеагульнага перапісу насельніцтва і кватэр, праведзенага ў Дубіцкай гміне, можна будзе апрацаваць, між іншым, даныя пра дэмаграфічныя працэсы, адсотак беларусаў у параўнанні да ўсіх жыхароў гміны, жыллёвыя патрэбы, абсталяванне дамоў і кватэр, ці доступ да інтэрнэту.

Нацыянальны ўсеагульны перапіс насельніцтва і кватэр, калі б быў сумленна арганізаваны ў 2021 годзе і добра навукова даследаваны, можна было б параўнаць з перапісам праведзеным у 2002 годзе. Тады перапісчыкі ставілі, між іншым, пытанне пра нацыянальнасць. Пасля атрымалася, што найбольш беларусаў жыве ў Чыжоўскай і Дубіцкай гмінах, больш за 80% ад агульнага ліку жыхароў, у Арлянскай гміне — каля 70% і ў Гайнаўскай гміне — каля 65%. Нацыянальны перапіс насельніцтва ў 2011 годзе быў праведзены на невялікай частцы жыхароў і метады навуковай апрацоўкі даных у 2011 годзе моцна розніліся ад метадаў 2002 года. На падставе апытанняў перапісу ў 2011 годзе колькасць беларусаў у Дубіцкай гміне была акрэслена на каля 64% ад агульнага ліку жыхароў.

❖Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**




## http://rtbd.by

Хоць гісторыя беларускага тэатра налічвае стагоддзі, так сталася, што моцнымі штуршкамі ў яго развіцці былі дзве апошнія хвалі беларусізацыі. Першая мелася ў 20-30-х гадах мінулага стагоддзя, а другая — у 90-х. Напрыклад, у 1920 годзе ўзнік Беларускі дзяржаўны тэатр (цяпер Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Я. Купалы). У 1933 годзе быў створаны Дзяржаўны тэатр оперы і балета Беларусі. У сваю чаргу ў 1990 годзе паўстае Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі (РТБД). Сёння ён адыгрывае важную ролю ў тэатральным жыцці беларускай дзяржавы і без яго немагчыма ўявіць сучасную беларускую сцэну.

Сайт гэтага тэатра месціцца ў інтэрнэце па адрасе http://rtbd.by. Выглядае ён даволі сціпла, але разам з тым добра напоўнены актуальнай інфармацыяй. Так, уверсе цэлага выяўлення месціцца выйсці на чатыры рубрыкі сайта, якія ў сваю чаргу змяшчаюць мноства падрубрык. Адна з іх — „Гісторыя тэатра", якая распавядае пра хоць не надта доўгае, але вельмі насычанае яго жыццё. „Паводле пастановы Савета Міністраў Беларускай ССР, Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі быў створаны ў снежні 1990 года і пэўны час існаваў як структурнае падраздзяленне Беларускага тэатра імя Янкі Купалы. Яму быў нададзены статус творчай лабараторыі, і канцэпцыя новага сцэнічнага калектыву была акрэслена дакладна: падтрымка нацыянальнай драматургіі, адкрыццё новых імёнаў беларускіх аўтараў", — распавядаецца ў падрубрыцы.

Там жа адзначаецца, што ў далейшым акцэнт трупы быў зроблены на спектаклях метафарычнага і абсурдыцкага накірунку, а са спектаклямі „Рычард" і „Макбет" Уільяма Шэкспіра двойчы з поспехам удзельнічаў у Эдынбургскім тэатральным фестывалі „Фрыдж".

Пра тое, хто сёння працуе ў РТБД, гаворыцца ў рубрыцы „Людзі тэатра". Тэатральны калектыў, хоць і не вельмі вялікі, але зболшага малады. Прозвішчы актораў і прадстаўнікоў адміністрацыі тэатра апублікаваны разам з партрэтамі.

РТБД прымае даволі актыўны ўдзел у фестывальным жыцці. У падрубрыцы „Фестывалі і гастролі" можна даведацца, што апошні фестываль, у якім прымаў удзел тэатр, прайшоў летась у беларускім Бабруйску. Гэта быў VII Рэспубліканскі фестываль нацыянальнай драматургіі імя Дуніна-Марцінкевіча. Таксама ў 2019 годзе беларускія драматургі паказалі сваю пастаноўку ў Грузіі на Фестывалі нацыянальнай грузінскай драматургіі. А літаральна за месяц да таго — у Марока. Прымалі мінскія акторы ўдзел у III фестывалі «Напрамак — Усход», што прайшоў у Беластоку ў леташнім кастрычніку.

Тэатр рэалізуе шмат разнастайных праектаў, напрыклад, Тыдзень сучаснай беларускай драматургіі «Канцэнтрацыя», які адбудзецца напрыканцы лютага — пачатку сакавіка. Падчас „Канцэнтрацыі" гледачы змогуць пабачыць шэсць спектакляў, а пасля — абмеркаваць пабачанае з драматургамі. Таксама акторы тэатра дзеляцца сваімі планамі — яны рыхтуюць спецыяльны праект «Новадрамаўскі аганёк», які прапануе з гумарам парэфлексаваць на тэму беларускай «новай драмы».

Сайт РТБД зроблены па-беларуску, але пазнаёміцца з ім віртуальна можна таксама на англійскай і польскай мовах.

❖**Аляксандр ЯКІМЮК**



Дата з Календара

# 105 гадоў з дня нараджэння Мітрафана СМАРШЧКА

Беларускі паэт, культурны і грамадскі дзеяч Мітрафан (Мацьвей) Смаршчок нарадзіўся ў сялянскай сям'і 19 лютага 1915 г. у вёсцы Падлессе (Ляхавіцкі раён). Вёска была заселена Смаршчкамі, таму, каб адрозніць адну сям'ю ад другой. Іх вясковае прозвішча было Рэпкаў-Смаршчок. Бацька Васіль у час Першай сусветнай вайны ваяваў у царскім войску, потым гаспадарыў, маці — Ганна — дапамагала ў хатніх справах. Бацька цікавіўся кнігамі, прывіваў любоў да навукі і сыну. Выправіў вучыцца сына ў польскую школу ў Падлессі. Пачатковую школу Мацьвей скончыў у Ляхавічах. Пасля паспяхова закончыў Баранавіцкую гімназію імя Тадэвуша Рэйтана і паехаў адукоўвацца ў Віленскі ўніверсітэт, хоць маці хацела, каб вывучыўся на святара. У 1934-1939 гг. навучаўся на медычным факультэце Віленскага ўніверсітэта.

Вершы пачаў пісаць, калі меў каля 12 гадоў. Поштай дасылаў іх у часопіс „Заранка". У час студэнцтва актыўна ўдзельнічаў у беларускім руху. Быў сябрам Беларускага студэнцкага саюза. Смаршчок уваходзіў у склад рэдкалегіі „Студэнцкай трыбуны" — дадатку да галоўнага выдання газеты Беларускай хрысціянскай дэмакратыі „Беларуская крыніца", у склад кіраўніцтва Таварыства прыяцеляў беларусаведы пры Віленскім універсітэце. Належаў да рэдкалегіі часопісаў „Калосьсе", „Шлях Моладзі", супрацоўнічаў з гумарыстычным часопісам „З-за плоту".

У 1939-1941 гг. працаваў лекарам у чыгуначных шпіталях у Брэсце і Пінску. Яшчэ ў Вільні да яго прыходзілі супрацоўнікі НКВД. Пачатак вайны сустрэў у Маскве, куды быў накіраваны для далейшай адукацыі. Атрымаў загад вярнуцца дамоў, у Пінск, але цягніком даехаў толькі да Оршы. Там яго прымусілі працаваць у паліклініцы, бо ўсе лекары паўцякалі з пачаткам нямецкіх авіяналётаў. Разам з дактарам Рудзкім з Беластока быў арыштаваны і загнаны адбудоўваць мост. Пасля на цягніку даехаў да Баранавіч. Там быў пасаджаны ў нямецкую турму. Добра валодаў нямецкай мовай, таму змог хутка вызваліцца і дабрацца дамоў. Пры немцах працаваў у Баранавічах, загадваў шпітальным аддзелам, быў дырэктарам і выкладчыкам медычнай школы. У 1942 г. ажаніўся з медсястрою Станіславай Кшывец, нарадзілася дачка.

У 1944 г. Мацьвей Смаршчок з сям'ёй і бацькам выехаў у Нямеччыну. Спачатку сям'я спынілася ў Познані, дзе жонка мела сваякоў. Там Смаршчок трапіў у нямецкі працоўны лагер. Разам з расейцам і двума французамі быў прызначаны на лекарскую працу. Бацькі Мацьвея Смарчка трагічна загінулі. Бацька, Васіль Смаршчок, загінуў у Нордхаўзене ў час налёту англійска-амерыканскай авіяцыі. Маці, якая адмовілася пакідаць родную вёску Падлессе, загінула ў савецкім канцэнтрацыйны лагеры ў Лясным.

У 1948 ці 1950 годзе Смаршчок з'ехаў у ЗША. Ва Універсітэце Мінесоты цягам трох гадоў здаў усе патрэбныя экзамены. Спачатку працаваў разам са старэйшым лекарам горада. Потым пачаў працу ва Універсітэце Мінесоты, стаў яго прафесарам, займаўся хваробамі сэрца. На пасадзе дырэктара Дома састарэлых працаваў ажно да 85 гадоў. Ягонае імя носіць (названы яшчэ пры жыцці) адзін з карпусоў медычнага комплексу ў горадзе Мантысела (англ. Monticello). Падтрымліваў сувязь з Беларускім інстытутам навукі і мастацтва. У вольны час займаўся фатаграфаваннем, шахматамі, электронікай. У 1989 г. выдаў зборнічак „Адзінаццаць вершаў". У 2004 г. у Мінску выйшла яго кніга „Бярозка Анатоль. Выбранае".

Памёр Мітрафан Смаршчок 20 чэрвеня 2008 года ў Мантыселе. Пахаваны на каталіцкіх могілках царквы святога Генрыка.

❖**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# На пасёлку Падлясе

7 лютага гэтага года выбраўся я на прагулку па пасёлку Падлясе ў Гайнаўцы. Тут жыў наш ніўскі карэспандэнт Эдмунд Вайсковіч. Раней я ведаў яго як рэвізора паштовых устаноў Гайнаўскага павета. Прыязджаў ён службова на пошту ў Старое Ляўкова і тут мы пазнаёміліся. А гэты раён горада знаходзіцца пад лесам, на ўскраіне Белавежскай пушчы, таму яго назвалі Падлясем. Тут прыватныя катэджы. Усюды парадак. Я ведаю некаторых вясковых людзей, якія тут пабудавалі сабе дамы і тут жывуць. Ёсць, між іншым, новаляўкоўцы з маёй роднай вёскі. Жыхары Падляся маюць прадуктовую краму пры вуліцы Ліпавай. На другім баку гэтай вуліцы крыху воддаль знаходзіцца бальніца і амбулаторыі. Сюды можна даехаць на аўтобусе гарадской камунікацыі лініі нумар 2.

Шпацыраваў я, між іншым, вуліцамі Саламянай (яна прымыкае да доўгай, шырокай (мае яна паабапал тратуары) і рухлівай вуліцы Ліпавай), Спадовай і вузенькай Спіральнай. З гэтых вулачак да апошняй трэба ехаць ад вуліцы Падлясе. На вышэйзгаданым пасёлку вуліцы маюць назвы ад дзікіх і хатніх птушак, між іншым, Галубіная, Ластаўкавая, Павя, Бажантовая, Боцяня, Чаплі, Вільгі, Круча, Лабэндзя, Сакаліная, Гусіная і Качыная. Паралельна з вуліцай Боцяняй (Буславай) бяжыць вуліца Жабя (Жабіная). Вось як!

Цяпер пасялковыя вуліцы маюць асфальтавыя маставыя, але не маюць тратуараў. Невядома чаму на вуліцы Яскулчай (Ластаўкавай) не ўсюды ляжыць асфальтавае палатно. Гэта крайняя вуліца. Яна спалучаецца з вуліцай Ліпавай. На ёй рамонту чакае якраз зараз балоцістны кавалак. **(яц)**

## Зубры наведваюць Нараўку

Я нядаўна пісаў, што зубры на тэрыторыі Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета выходзяць з лесу, каб паласавацца азімінай („Ніва" № 6 ад 9 лютага гэтага года). Яны хадзілі, між іншым, па наваколлі Новага Ляўкова, Лазовага, Міклашэва і Асовага. Зараз яны наведалі Нараўку. Найперш падкрадаліся яны бліжэй будынкаў пры вуліцы Свярковай. Тут зараз за платамі ўжо рэдкалессе, а далей малады гусцейшы сасновы лес. У гэтай частцы Нараўкі новыя вуліцы маюць назвы дрэў, напрыклад, Сасновая, Бярозавая.

У самым канцы вуліцы Свярковай будуе сабе і сям'і дом Каміль Харкевіч з Новага Ляўкова. Пабудова яшчэ не закончана. На панадворак спадар Каміль прывёз чарназём і пасеяў траву. Трава вырасла, так сказаць, супер. Падгледзеў яе зубр і закраўся на панадворак, бо брамка была адкрыта. Калі пад'еў, то і прылёг. Не хацелася яму пакідаць адборнай пашы. Тут так спакойна, ціха ды ніхто і нішто яго не непакоілі.

Вестку пра незвычайнага госця і нават яго фотаздымак выслала па тэлефоне суседка, што жыве побач з Камілевым пустым пакуль домам. Спадар Каміль з сябрам паехалі прагнаць няпрошанага госця з панадворка. Зубр вымушаны быў адступіць не па законе занятае месца. Рабіў гэта з вялікай неахвотай. Яго паказалі на фейсбуку. Мне вядома, што некалькі гадоў таму зубр шпацыраваў сабе па самай рухлівай вуліцы Нараўкі ды яго мужчыны прагналі. Сюды зубры прыходзяць з Белавежскай пушчы, а яна побач. **(яц)**

## Першыя вестуны вясны

17 лютага гэтага года прыляцелі да нас жураўлі. Звонкія галасы першых жураўлёў пачуў я ў наваколлі Сушчага Барка Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета. Вёсачка гэтая на ўскраіне Белавежскай пушчы ды з аднаго боку над поймай дзікай ракі Нараўкі. Тут заўсёды мокрыя залiўныя і цяжка даступныя лугі. Жураўлі сваім крыкам напоўнілі ўсё наваколле, між іншым, Новага Ляўкова. Першыя чародкі дзікіх гусей ляцелі далей на ўсход — у бок Палесся на Беларусі. Некаторыя затрымаліся на Семяноўскім возеры.

Мае аднавяскоўцы з Новага Ляўкова бачылі і чулі галасы першых шпакоў. Некаторыя з іх пасяліліся ў шпакоўнях у лесе Плянта. У Плянту пяць гадоў таму завёз самастойна зробленыя домікі для гэтых птушак мой новаляўкоўскі сусед-пенсіянер. Ён любіцель шпакоў, жаваранкаў і салаўёў. Пасадзіў шмат дрэў, перш-наперш бяроз, на сваім прыдамашнім участку зямлі і абгарадзіў яго. У сваім лясочку ў цёплую пару года ён збірае грыбы. Праводзіць свой вольны час, слухаючы ціхі супакойлівы пошум ветру ў галінах дрэў ды прыгожы спеў птушак.

Прыляцелі першыя вестуны надыходзячай вясны і стала больш прыемна і радасна ў маўклівым зімой лесе. Пачалі свае спевы і лясныя птушкі. **(яц)**




# 23.02 — 29.02

**(22.03. — 20.04.)** 22-28.02. афармляй цяжкія справы. З поспехам пазмагаешся за сваё. 23-25.02. зачаруе цябе хтосьці свабодны. Знаёмства пачнецца бурліва і будзе мець многа нечаканых ходаў. 22-24.02. будзеш стомлены і з горшым настроем, пакарыстайся неканвенцыянальнай медыцынай. 26-29.02. будзеш падазроны і хваравіта зайздросны. 25-27.02. можа табе ўдацца заснаваць сваю фірму.

**(21.04. — 21.05.)** 23-25.02. не паблажай сабе. 26-29.02 пагражае сур'ёзны канфлікт з партнёрам. 25-27.02. заззяюць.твае таленты і ўмеласці. Не нервуйся і не турбуйся тым, што нявартае старання. Лепш не сустракайся з былым каханнем. Добры час на саперніцтва, але і кампрамісныя негацыяцыі. Людзям кажы колькі трэба. Не сядай на халодным.

**(22.05. — 22.06.)** Дагаворышся з усімі, зразумееш сам сябе. Будзеш радасны і спакойны. Марс падагрэе атмасферу ў пары. 25-27.02. будзеш проста ў небе! 24-25.02. можа выбухнуць вялікі скандал у сям'і. 23-24.02. твае планы могуць аказацца нерэальнымі. З'ездзі куды-небудзь са знаёмымі. 25-27.02. будуць цяжка ісці размовы і негацыяцыі; укусі сябе часам у язык! 25-27.02. на працы добрыя задумы; не адмаўляйся ад іх, нават калі скажуць табе, што яны нерэальныя.

**(23.06. — 23.07.)** 23-24.02. сцішышся, супакоішся. Але 23-28.02. можа цябе штосьці вывесці з раўнавагі. Свядомы сваёй вабнасці, з большай упэўненасцю будзеш наладжваць знаёмствы; гатовы гарачы раман! 23-25.02. найбольшыя шанцы на рамонт ці змену жылля. 23-26.02. — добры час пачаць штосьці значыць у фірме. 23-24.02. вазьміся кінуць курэнне.

**(24.07. — 23.08.)** 22-24.02. вельмі зважай на здароўе, не прамачы, не застудзі ног. Нялёгкія размовы. Асабліва вострa 26-29.02. 23-25.02. выявяцца твае мастацкія таленты. 25-27.02. будуць дакучаць нерашучасць і сумненні. Не заўжды можаш палягаць выключна на сабе. З сябрамі і раднёй супольнымі сіламі знойдзеце рашэнне. Грошай могуць табе не вярнуць, а каштоўную пакупку адкладзі на пасля.

**(24.08. — 23.09.)** Тое, што быццам бы простае, ускладніцца. Вельмі добры настрой. Можаш шмат што здабыць (мусіш ведаць, чаго табе трэба). І нават закахацца. А калі маеш пару — ідылія. 23-26.02. горача ў спальні. 23-27.02. не падпадзі сваякам. На працы 25-27.02. не будзеш свядомы інтрыг і нячыстых прыёмаў. Сцеражы сваю прыватнасць, і не дзяліся думкамі. Цяпер вельмі моцна ўздзейнічаюць на цябе лякарствы.

**(24.09. — 23.10.)** 23-28.02. можаш сканфліктавацца з дзецьмі або бацькамі. 25-27.02. даведаешся, хто пра цябе кепска кажа. 26-29.02. не «скоч убок», бо вынікі могуць быць катастрафічныя. Не нервуйся без прычыны, кепскі настрой міне. Час натужлівай працы. Шмат новых ідэй, цяга да навінак. Пакажаш сваю творчасць, умеласць рашэнняў, самастойнасць.

**(24.10. — 22.11.)** 23-28.02. будзеш карыстацца несвядомымі ведамі і інтуіцыяй. 23-29.02. можа так здарыцца, што не будзеш ведаць, што рабіць. 23-28.02. будзеш вельмі схільны да рызыкі. 23-24.02. інакш глянеш на кагосьці табе добра вядомага; праекты, у якія ты заінвеставаў час і энергію, пачнуць прыносіць вынікі. Можа, павышэнне? Не раздавай грошай. Нагоды на лёгкі прыбытак.

**(23.11. — 22.12.)** Да 27.02. зможаш увесці многа змен да лепшага. 23-25.02. можа табе здасца, што сустрэў ты ідэал, але варта гэта праверыць. На працы не рабі па вярхах, асабліва 23-25.02. Старайся трымацца свайго і разлічвай толькі на сябе. 25-27.02. найлепш пойдуць размовы аб бізнесе і фінансах. 23-27.02. могуць уцягнуць цябе ў чыюсьці спрэчку або інтрыгу. 23-26.02. лёгка пераканаеш бацькоў ці партнёра да змены стылю жыцця. 26-29.02. не рабі сабе завіўкі ці не фарбуй валасоў.

**(23.12. — 20.01.)** 23-26.02. будзеш мець сілы на новыя амбітныя заваёвы. 23-28.02. прыйдуць змены, на якія не будзеш мець ахвоты. 23-27.02. будуць націскі на заснаванне сям'і; выберы дату сёлета — будзе бласлаўленне. 26-29.02. пэўныя непаразуменні нават у найлепшай пары. Заробкі можа і невялікія, але маеш шанц на дарагі дар ці спадчыну. 23-25.02. пазбудзься пару непрыгожых апранах.

**(21.01. — 19.02.)** 23-24.02. можаш ажыццявіць самыя адважныя планы. 23-25.02. не ўсе, каго спаткаеш, будуць бескарыслівыя. 26-29.02. выявіцца праўда, якой ты, мабыць, не хочаш ведаць. Цяжкія размовы ў апошнія дні лютага. Людзі ў фірме зінтэгруюцца, далучыся да іх. Цёпла апранайся, глытай вітаміну С.

**(20.02. — 21.03.)** 23-24.02. — добры час пачаць практыкаванні ці кінуць благія звычкі. 23-26.02. твае дзеянні будуць смелыя і паспяховыя. 27-29.02. хтосьці дасць табе прапанову несумленнага заробку. 25-27.02. могуць ускладніцца сямейныя адносіны. 23-25.02. трымайся за кашалёк. Рыбы народжаныя ў сакавіку хай вельмі дбаюць пра свае бронхі і лёгкія.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

**1.** 60 штук, **2.** кругагор, гарызонт, **3.** гандлёвае прадажнае мерапрыемства, якое ладзілася ў Беластоку і Бельску па чацвяргах, а ў Гайнаўцы па серадах, **4.** маці Авеля і Каіна, **5.** гарбата, **6.** майстар па шыццю абутку, **7.** адрас пачатковага пражывання Адама і Евы, **8.** Іван, маскоўскі палкаводзец, які ў снежні-студзені 1659-1660 гг. захапіў Гародню, Заблудаў, Камянец і Берасце, **9.** салодкае рэчыва, якое атрымоўваецца м.інш. з цукровага трыснягу, **10.** месца распальвання агню, крыніца дамашняй цеплыні, **11.** вучыцца ў інстытуце, універсітэце, **12.** атрута, **13.** вельмі круглы прадмет, напрыклад планета Зямля, **14.** галоўны горад Галіччыны, **15.** крайняя беднасць.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — народная пагаворка.

**(ш)**

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | | | | | | | | 2 | 3 | |
| | | | | | | 4 | 5 | | | | |
| | 6 | | | 7 | | | 8 | | | | |
| | | | 9 | | | 10 | 11 | | | | |
| | | | | | | 12 | | | 13 | | |
| 14 | 15 | | | | | | | | | | |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 4 нумара** Халва, трава, праект, вечарына, донар, зуб, цытадэль, плячо. Рашэнне: **Чалавека вочы водзяць**.


Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".

**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

**28 студзеня ў вясковай святліцы ў Праневічах адбылася сустрэча навакольнага вясковага актыву і кіраўніцтва Бельскай гміны, прысвечаная рэвіталізацыі тамашняга навакольнага асяроддзя.**

Само слова рэвіталізацыя з'явілася ў нашых слоўніках даволі нядаўна. Польскі „Słownik wyrazów obcych PWN" з 1980 года такога слова яшчэ не ўключаў у свой лексічны фонд. Беларускі „Слоўнік іншамоўных слоў" з 1999 года таксама яшчэ такога паняцця не тлумачыў. Бо ў нашу грамадскую прастору прыйшла гэтая навіна даволі позна. А слова *рэвіталізацыя* абазначае папросту вяртанне да жыццёвай актыўнасці. І прывандравала яно да нас з „гнілога" Захаду, як гэта ў нас любяць гаварыць не толькі палітыкі, якія не маюць жадання прызнацца ў нашай грамадскай адсталасці.

А больш канкрэтна, тэрмін *рэвіталізацыя* абазначае вяртанне да грамадскай актыўнасці насельніцтва, якое ў выніку цывілізацыйных працэсаў, у тым ліку і дэмаграфічнага перамяшчэння людзей з „задрыпаных" мясцовасцей у буйныя грамадскія цэнтры, у штораз большыя гарады. Мова пра вяртанне да грамадскай актыўнасці запушчаных у выніку абязлюдзення вясковых тэрыторый, прыкладам чаму наша Усходняя сцяна, нашы замiраючыя вёскі. Ну, можа і не было патрэбы думаць пра рэвіталізацыю нашых мясцовасцей у той час, калі яны, тыя нашы вёскі бурлілі жыццём, калі было ў іх поўна курэй, коней, дзяцей, школ... Калі шмат вытворчасці адбывалася менавіта ў вёсках, уручную, калі жанчыны пралі, ткалі, шылі, а мужчыны вывозілі гной, аралі, сеялі касілі. Зараз пра гэта помняць толькі штораз больш старыя людзі; шмат з іх, дарэчы, дажывае свой век у гарадах або ў вясковай самоце.

Рэвіталізацыя ў агульным значэнні гэта комплекс планістычных дзеянняў ладжаных мясцовым самакіраваннем, мэтай якіх мае быць такое карыснае перафармаванне запушчанай тэрыторыі, каб мясцовую грамадскасць папросту актывізаваць. Нашы законы наконт рэвіталізацыі, якія сталі выходзіць у свет пяць гадоў таму, вяшчаюць, што ў працэс рэвіталізацыі могуць быць уключаны тыя часткі гміннай прасторы, дзе выступае канцэнтрацыя негатыўных з'яў, як беспрацоўе, беднасць, злачыннасць, нізкі ўзровень адукацыі ці слабы грамадскі патэнцыял.



# Рэвіталізацыя



Калі заглянуць у мінуўшчыну, то першыя рэвіталізацыйныя праекты з'явіліся больш ста гадоў таму ў гарадскіх цэнтрах Захаду — Парыжа, Лондана, Чыкага, Пітсбурга; іх мэтай у той час была такая перабудова іх запушчаных кварталаў, каб атрымліваць адтуль грашовы прыбытак. Пазней у ліку мэт гарадской рэвіталізацыі з'явілася таксама ахова культурных вартасцей і захаванне помнікаў даўніны. Апошняе часта і ў нас бачыцца як квінтэсенцыя рэвіталізацыі. Але абнаўленне даўніх будынкаў гэта не ўсё; найважнейшае ў сучасным разуменні рэвіталізацыі гэта абуджэнне грамадства заселага ў запушчаных тэрыторыях.

Зараз галоўнай мэтай рэвіталізацыі з'яўляецца мясцовая грамадская рэвіталізацыя; калі рэвіталізацыя не ўключае грамадскай патрэбы, то нельга ў такім выпадку гаварыць пра рэвіталізацыю. Мясцовая праграма грамадскай рэвіталізацыі складаецца з дыягназу, значыць вызначэння, што дрэннага дзеецца на вызначанай тэрыторыі; ніжэй гміннай сярэдняй. Бярэцца комплекс паказальнікаў, вызначаецца іх сярэднюю вартасць у гміне і калі такія паказальнікі ніжэйшыя за гмінную сярэднюю, тады лічыцца, што на дадзенай тэрыторыі маем крызіснае становішча. У Бельскай гміне вызначана такім чынам пяць горшых абшараў, дзе насельніцтва само мае вызначыць свае грамадскія патрэбы для рэвіталізацыі.

Найважнейшыя крызісныя з'явы дыягназуюцца ў грамадскай сферы. Маем з'яву дэпапуляцыі, па сутнасці няма ў нас такой мясцовасці, якой бы яна не кранула. Беспрацоўе, старэнне грамадства, праблемы са здароўем і г.д. Аднак само грамадскае вызначэнне патрэб недастатковае, мусяць да гэтага быць канкрэтныя прапановы з гаспадарчай, тэхнічнай, асяроддзевай ці прасторава-функцыянальнай сфер (азбест, каналізацыя, адкіды, дзікія звалкі, тое ўсё, што патрэбнае для вонкавага функцыянавання — у тым ліку асвятленне дарог, трэнажорныя ўстановкі, спортпляцоўкі). Абшар рэвіталізацыі гэта тое месца, дзе дзеецца нешта адмоўнае, і той абшар завужаецца да такога памеру, дзе будуць праводзіцца рэвіталізацыйныя меры. Закон уводзіць абмежаванні для такіх абшараў: не больш чым 20% паверхні ўсёй гміны і заселены не больш чым 30% насельніцтва гміны.

Рэвіталізацыйная мера гэта мае быць ідэя мясцовага грамадства. На тэрыторыі Бельскай гміны было створана 13 аналітычных адзінак; кожная з іх уключала па некалькі салэцтваў. Паказальнікі, паводле якіх адбывалася вызначэнне, не былі падрабязна абнародаваны, было сказана, што яны акрэслены законам. Хаця было сказана пра наяўнасць грамадскіх аб'ектаў. Для абшару гміны бралі сем паказальнікаў з грамадскай сферы, два з гаспадарчай, два з асяроддзевай, восем з прасторава-функцыянальнай і тры з тэхнічнай. У другім аналітычным абшары, які ахоплівае Праневічы і суседнія вёскі, здыягназавана 17 крызісных з'яў — гэта найбольшая колькасць крызісных з'яў у маштабе гміны. Рэвіталізацыя не прадбачвае пабудовы новых аб'ектаў, толькі рамонт існуючых.

Аналітычны абшар для Храбал, Дэніскаў, Праневіч, Гацькоў, Плёсак. Былі да гэтай пары заяўлены м.інш. будова павятовай дарогі для Храбал, вулічнае асвятленне для Дэніскаў, Праневічы — абліцоўка святліцы, будова дарогі ў Арэхавічы і Вялікія Грыневічы, ліквідацыя дзікіх звалак, будова вулічнага асвятлення. Гацькі — загаспадаранне Замкавай гары, даязной дарогі. Плёскі — рамонт будынка пажарнага дэпо, ліквідацыя дзікіх звалак і яшчэ некалькі.

Прысутныя звярталі ўвагу на камунікацыйныя праблемы, дарогі без абочын, пешаходныя пераходы. Тут праходзіць транзітная даволі галосная і рухлівая краёвая дарога „дзевятнаццатка", як яе прайсці; голас з залы: — Бягом! Ніхто яшчэ не звярнуў увагі, што гэты абшар можа быць суб'ектам г.зв. срэбрнай эканомікі, каб нехта сюды прыехаў жыць на пенсіі. Прысутныя звярталі ўвагу і на тое, што невядома колькі часу трэба чакаць здзяйснення гэтых прапаноў. Вядучая звярнула ўвагу, што ў дацкіх адлеглых мясцовасцях сарганізаваны давоз да лекараў нямоглых людзей, які забяспечваюць іх больш здаровыя суседзі. Адказ з залы, што ў нас такія праблемы гэтак жа сама рашаюцца. Веладарожка гэта люксус. Веладарожка побач краёвай „дзевятнаццаткі" ў плане ўжо з 50 гадоў, усё абяцанні, што тая „дзевятнаццатка" будзе прыстойна зроблена, як будуць грошы...

Першы блін камяком, гаворыць народная мудрасць. Гэтак жа сама і з праектам вясковай рэвіталізацыі. Народ не фамільярны яшчэ з гэтай праблемай, але, калі будзе сапраўдная магчымасць яе рэалізаваць, то справы верагодна пойдуць больш шпарка. Пакуль — гаворка толькі пра першую ластаўку, якая мае актывізаваць кінутае ў грамадскую адсталасць наша насельніцтва. Бо штуршок у гэтую адсталасць быў даволі бойкі; той трэнд да глабальнай з'явы міграцыі насельніцтва згодна з марамі пра больш выгаднае і годнае жыццё, атрымаў у нас яшчэ дадатковы штуршок і ў выніку грамадскіх перамен канца ХХ стагоддзя. Штур-шок і шок... І трэба гэта неяк палагодзіць. Абы толькі тая рэвіталізацыя не была чарговай гаварыльняй...

А сабліва наша Усходняя сцяна; яна, амаль быццам славутая Берлінская сцяна, амаль павалілася, яшчэ і ў сэнсе культурных каштоўнасцей. Магчыма, што гэтую нашу ўдасца нейкім чынам прыпаднясць...

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960 08